№ 33 (918) 9 верасня 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Міхалевіч: Я вярнуўся, бо хачу быць са сваёй сям'ёй і краінай

8 верасня экс-кандыдат у прэзідэнты прыехаў у Беларусь пасля амаль пяці гадоў эміграцыі. **Старонка 3.**





### «Футбол — 90 хвілін, пабрацімства назаўжды»

Адборачны матч да чэмпіянату Еўропы Украіна — Беларусь: фанаты абедзвюх каманд стварылі на стадыёне непаўторную атмасферу братэрства і свята. **Старонка 5.**

### Беларус загінуў за Украіну

На пахаванне Алеся Чаркашына ў Брэсце сабралася некалькі соцень чалавек. **Старонка 3.**

### Расія хоча паставіць у Беларусі авіябазу

Падобная база ў Севастопалі зрабіла магчымым захоп Крыма. **Старонка 2.**

### Радзіма не прадаецца

Таццяна Барысік. Запісы з народнага жыцця. **Старонка 15.**

# Расія хоча паставіць у Беларусі авіябазу

Падобная база ў Севастопалі зрабіла магчымым **захоп Крыма**.

Расія загаварыла пра размяшчэнне авіяцыйнай базы на тэрыторыі Беларусі. Урад Расіі абмяркоўвае адпаведнае пагадненне — гэта «будзе садзейнічаць арганізацыі сумеснай аховы знешняй мяжы саюзнай дзяржавы ў паветранай прасторы і стварэнню Адзінай рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь». Адзначаецца, што дакумент таксама «доўгатэрмінова замацуе расійскую вайсковую прысутнасць у рэгіёне». Расейцы спадзяюцца адкрыць базу да канца 2015 года.

З беларускага боку гэтыя заявы выклікалі збянтэжанасць, дзяржаўныя СМІ праігнаравалі навіну.

Папярэдняе пагадненне было падпісана ў 2013 годзе, да пачатку ўкраінскага крызісу. Тады недальнабачныя палітыкі нават не дапускалі думкі, што Расія можа выкарыстаць грубую сілу.

Менавіта расійская вайсковая прысутнасць у Севастопалі зрабіла магчымым захоп і анексію Крыма ў 2014. База ў Баранавічах ці Бабруйску між тым азначае кантроль над усёй паветранай прасторай Беларусі, з Мінскам уключна.

Супраць стварэння базы катэгарычна выступае беларуская апазіцыя. Дагэтуль на тэрыторыі нашай краіны знаходзіліся толькі асобныя расійскія вайсковыя аб'екты.

Горкі вопыт размяшчэння базаў мелі краіны Балтыі ў 1939.

У інтэрв'ю радыё «Свабода» пралукашэнкаўскі палітолаг Арсень Сівіцкі, кіраўнік беларускага Цэнтра стратэгічных і замежнапалітычных даследаванняў, заявіў, што бачыць пагрозу ваеннапалітычнага ціску на Беларусь.

«Некаторыя колы ў Крамлі ўспрымаюць «разварот» Беларусі на Захад і ўмацаванне супрацоўніцтва з Кітаем як змяншэнне ўплыву Расіі ў Беларусі. І таму адзіны крок, на іх думку, які б замацаваў Беларусь у сферы ўплыву Расіі, — гэта разгортванне тут сталай вайсковай прысутнасці», — мяркуе ён.

«Калі казаць, наколькі далёка Расія можа пайсці ў ціску на Беларусь — то мы тут не можам выключаць ніякіх варыянтаў, асабліва пасля крымскага крызісу. Адзіны інструмент утрымлівання Беларусі ў сваёй сферы ўплыву — дэстабілізацыя ваенна-палітычнага становішча, як гэта было ў выпадку з Украінай», — кажа Сівіцкі.

Палітолаг прагназуе, што наступным крокам пасля пагаднення аб авіябазе будзе прапанова аб стварэнні ў Беларусі сухапутнай базы.

**Сяргей Гезгала**

# Спартыўны касцюм Пуціна каштуе $3200



Многія кіраўнікі краін Еўраазіяцкага саюза жывуць не па сродках. Па тэлебачанні пра гэта не пачуеш, але ў інтэрнэце інфармацыя разыходзіцца непазбежна.

Варта было Уладзіміру Пуціну з Дзмітрыем Мядзведзевым правесці ў Сочы публічную трэніроўку, як карыстальнікі сацыяльных сетак пад мікраскопам вывучылі апублікаваныя запісы.

У прыватнасці, высветлілася, што спартовы касцюм прэзідэнта Расіі каштуе ні многа ні мала 3200 даляраў. Столькі расійскі настаўнік фізкультуры зарабляе за 8 месяцаў!

Майстарка каштуе $1795, а штаны — яшчэ $1425.

Не так даўно скандал узнік вакол шыкоўнага вяселля і мядовага месяца Дзмітрыя Пяскова — прэс-сакратара і іміджмейкера Пуціна. Урачыстасці і адпачынак былі коштам у сотні тысяч даляраў, і няясна, хто і з якіх сродкаў іх аплаціў.

## Свой заклік купляць беларускае Лукашэнка прамаўляў у гадзінніку Vacheron Constantin за $15 тысяч





Пры канцы жніўня Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з жыхарамі вёскі Расна Камянецкага раёна. Тады ён гаварыў пра важнасць імпартазамяшчэння і заклікаў не купляць імпартныя тавары.

«Навошта вам даляр? Купіць імпартнае і паехаць у Егіпет адпачыць? Перажывём. Няхай лепш яно будзе крыху не тых мод, без дзірак на каленях. Як цяпер штаны носяць? Трэба працэрці дзірку. У тым, у чым раней мы саромеліся на вуліцу выходзіць, цяпер ходзяць. Давайце ўжо не будзем праціраць гэтыя дзіркі, будзем хадзіць у беларускім, нармальнай бялізне, вопратцы, ручнікі будзем выкарыстоўваць беларускія і ежу беларускую», — заявіў ён.

Эмацыйны спіч пра якасць беларускай прадукцыі з заклікам «насіць беларускае» Лукашэнка прамаўляў у новым гадзінніку, заўважыў блогер Анатоль Міцура.

Што ж гэта за гадзіннік? Можа быць, Лукашэнка вырашыў пачаць з сябе і набыў беларускі гадзіннік «Прамень»?

Днём раней Лукашэнка наведаў бабаўняны завод у Баранавічах, і на фотаздымках бачная зашпілка на яго гадзінніку. Такая зашпілка — «мальтыйскі крыж» — фірмовы знак адной з самых дарагіх і прэстыжных марак *Vacheron Constantin*.

Гадзіннік Лукашэнкі вельмі падобны да *Vacheron Constantin Geneve*, цана на які ў Маскве вагаецца (у залежнасці ад мадэлі) у раёне $15—20 тысяч.

Новую дэкларацыю аб даходах кіраўніка дзяржавы ЦВК яшчэ не апублікаваў, але ў адпаведнасці з папярэдняй дэкларацыяй Аляксандру Лукашэнку прыйшлося б тры гады ашчаджаць, каб набыць сабе такі гадзіннік, заключае блогер.

**Анатоль Міцура, livejournal.com**

**Фальклор**

# «Умее жаць, умее і пахаць»

У інтэрнэце размясцілі відэазапіс песні, прысвечанай Аляксандру Лукашэнку. На трасянцы спявае ансамбль «Крынічанька» з Новых Мілевічаў. Гэта вёска ў Жыткавіцкім раёне, утвораная ў 1930-я ўцекачамі з тагачаснай Польшчы. Яе тэкст будзе ўяўляць цікавасць для фалькларыстаў.

На паласу мы едзем на работу
І камбайна дружна мы ведзём.
А нам званят, што едзе Лукашэнка,
І с удавольствем мы ево ўсе ждзём.

І вот прыехаў ў поле Лукашэнка,
І к камбайну лёгенька ідзёт.
І он за руль садзіцца і з улыбкай
І камбайна плаўна он ведзёт.

А Лукашэнка ўсё рабіць умее,
Умее жаць, умее і пахаць.
Свaей душой, сваім ласкавым серцэм
Людзей к труду умее прыўлекаць.

І мы у многіх странах пабывалі,
І вот, друзья, хацім мы вам атвет:
І прэзідэнтаў многа мы відалі —
За Лукашэнка ў мірэ лучшэ нет.

І вот цібе спасіба, Лукашэнка,
Такі нялёгкі труд ўзял на сібе —
Ты нашу Беларусь аберэгаеш:
Мы, беларусы, клонімся цібе.

# Улаховіч прапануе ліквідаваць сучасную беларускую мову

І перавесці ўсіх **на мову Скарыны**.

Кандыдат у прэзідэнты апублікаваў свае прапановы па адраджэнні беларускай мовы.

На думку атамана Улаховіча, у заняпадзе беларускай мовы вінаваты не Аляксандр Лукашэнка, а апазіцыя: «Не сакрэт, што большая частка апазіцыі, закладчаная заняпадам беларускай мовы, з'яўляюцца грамадзянамі з так званай «картай паляка», што таксама не выпадкова. За іх дзеяннямі адгадваецца жаданне перавесці беларускую мову з роднай кірыліцы на заходнюю (польскую) лацінку».

Атаман прапануе свой шлях адраджэння мовы: «аднаўленне спрадвечных лінгвістычных кодаў і першароднага выгляду ад Францыска Скарыны, да зброддлівага саюза з Польшчай пад назвай Рэч Паспалітая».

«Трэба будзе перакласці ўсю літаратуру з сучаснай беларускай мовы (засмечанай рознага роду трасянкай) на спрадвечную беларускую мову ад Францыска Скарыны», — падсумоўвае Улаховіч.

Сваё антынавуковае трызненне атаман супраываджае цытатамі Сталіна.

**ЯМ**

### Апытанне на nn.by

**Як Вы настроеныя прагаласаваць на сёння?**

| | | |
|---|---|---|
| На выбары не пайду | 1505 | 60% |
| На выбары пайду, упішу ў бюлетэнь прозвішча Статкевіча | 347 | 14% |
| Тацццяна Караткевіч | 475 | 19% |
| Аляксандр Лукашэнка | 145 | 5% |
| Сяргей Гайдукевіч | 21 | 1% |
| Мікалай Улаховіч | 16 | 1% |

Прагаласавала 2509 чалавек

### Самае чытанае на nn.by за 26 жніўня — 8 верасня

1 Выпадак з Аляксандрам і Мікалаем Лукашэнкамі ды Сі Цзіньпінам, растыражаваны кітайскімі сацсеткамі

2 Былы міністр просіць за катэдж у Драздах $1 400 000

3 «Героі не ўміраюць»: у Брэсце развіталіся з Алесем Чаркашыным

4 «Папялушка з Таджыкістана» здзівіла свет сваёй прыгажосцю

5 Апазіцыя аб'ядналася, патрабуе выбараў з удзелам Статкевіча

6 Гісторыя бітвы пад Оршай і «хітражопага Астрожскага» на трасянцы

7 У Каралеўстве Свазіленд загінула 65 дзяўчат, якіх везлі на «Танец трыснягу»

8 Фанаты прадэманстравалі каласальную салідарнасць на матчы Украіна—Беларусь у Львове

9 Шакуючая фатаграфія, якая можа змяніць стаўленне Еўропы да мігрантаў

10 Якім чынам Беларусь дацыруе расійскую фінансавую сістэму і чаму гэта прыводзіць да нашых дэвальвацый

# Беларус загінуў за Украіну

**На пахаванне Алеся Чаркашына ў Брэсце сабралася некалькі соцень чалавек.**

28 жніўня ад раненняў, атрыманых за два з паловай тыдні да гэтага, памёр беларус з добраахвотнага ўкраінскага корпуса «Правы сектар» 33-гадовы Алесь Чаркашын. Ён меў пазыўны Тарас, а ваяваў на Украіне ад пачатку зімы. Гэтая першая смерць сярод некалькіх дзясяткаў беларусаў, што ваююць за незалежнасць Украіны.

Алесь Чаркашын даўно быў у нацыянальным руху. Яшчэ пры канцы 1990-х — пачатку 2000-х ён быў сябрам спартова-патрыятычнай арганізацыі «Край». Пасля з'яўляўся актывістам «Зубра». У 2009 ён прыйшоў у Хрысціянскую дэмакратыю, стаў каардынатарам аргкамітэта партыі па Брэсце.

«У 2011 годзе яны разам са Змітром Шурхаем ладзілі ў Брэсце маўклівыя акцыі, іх затрымлівалі не раз, — кажа сустаршыня «хадэкаў» Павел Севярынец. — Ён быў прадпрымальнікам, але аддаваў сябе і грамадскім справам. На Плошчы 2010 года абараняў людзей ад збіцця, нават маю матулю. 15 снежня 2013 зладзіў найбольш яркую сваю акцыю. Ён выйшаў да Брэсцкага аблвыканкама ў адзенні прарока з «акрываўленымі» рукамі, у ланцугах. Вось як сёння стаіць перад мной такая карціна. Ён заклікаў людзей пакаяцца за грахі, а ўладу папярэджваў за злыя дзеянні супраць людзей».

Нават на вайне ён заўсёды меў з сабой кішэнны «Новы Запавет» з надпісам «Беларусь, дзецям Божым у вечнасць». «Ён фактычна выконваў ролю капелана, настаўляў нас у пытаннях рэлігіі», — кажа добраахвотнік Док, паплечнік Чаркашына. Хлопец быў перакананы, што вернік павінен сумяшчаць веру і палітыку. Ва Украіне ён навучаўся ў Таўрыйскім хрысціянскім інстытуце ў горадзе Херсон.

У лютым сёлета, пасля смерці некалькіх украінскіх пабрацімаў, Алесь Чаркашын узняў у Пясках бел-чырвона-белы сцяг як сімвал супольнай свабоды.

Пахавалі Алеся ў Брэсце 3 верасня. Развітанне прайшло ў двары дома №37 па вуліцы 28 Ліпеня, дзе ён жыў. Развітальная цырымонія пераўтварылася ў масавую жалобу.

Труну з целам Алеся Чаркашына планавалася даставіць у Брэст як мага раней. Але дарога дадому заняла некалькі дзён, беларускае консульства ў Кіеве не адразу дало згоду на перавоз. Машыну з труной пільна даглядалі на мяжы беларускія пагранічнікі. Пасля трэба было трапіць у брэсцкі морг, каб атрымаць пасведчанне аб смерці.

Задоўга да пачатку цырымоніі развітання ля пад'езда пачалі збірацца ўсе, хто хацеў праводзіць Алеся ў апошні шлях. На пахаванне прыехалі Павел Севярынец, колішні каардынатар «Зубра» Павел Юхневіч, бард Андрэй Мельнікаў, актывіст незалежных прафсаюзаў Андрэй Стрыжак, былыя палітвязні Зміцер Дашкевіч і Наста Палажанка, актывісты «Маладога Фронту». Людзі прыязджалі з усіх куткоў Беларусі. Узнялі некалькі бел-чырвона-белых сцягоў.

Труну з целам Алеся Чаркашына прывезлі на мікрааўтобусе. Адразу як яе вынеслі, актывісты пачалі скандаваць «Героі не ўміраюць!» і сталі на калені. Да адкрытай труны, пакрытай бел-чырвона-белым сцягам, прыпалі бацькі. Яны не стрымлівалі слёз. Развітальнай цырымоніяй кіраваў пратэстанцкі пастар з царквы, у якую хадзіў Чаркашын. Хор спяваў «Айчына мая ў нябёсах». Пасля малітвы «Магутны Божа» труну пад бел-чырвона-сцягамі і воклічамі «Героі не ўміраюць» на руках панеслі ў апошні шлях.

Пахаванне Алеся Чаркашына прайшло на могілках вёскі Камяніца-Жыравецкая за некалькі кіламетраў ад Брэста. Бацькі Чаркашына пакінулі ў труне побач з бел-чырвона-белым сцягам і жоўта-блакітны сцяг Украіны. Некалькі дзясяткаў жалобных вянкоў ад прыватных асоб і арганізацый услалі магілу. На развітанне сябры Чаркашына ўключылі аўдыёзапіс песні, якую Алесь напісаў падчас знаходжання ў зоне АТА ва Украіне. Яна сканчалася радкамі: «За зямельку недарэмна сваё жыццё я аддаю...»

Праз некалькі дзён пасля пахавання супрацоўнікі КДБ пачалі тэлефанаваць бацькам Чаркашына, а таксама ўдзельнікам пахавання з пытаннямі, чаму развітанне было ператоранае ў несанкцыянаванае мерапрыемства і хто даваў дазвол на пахаванне ў Камяніцы-Жыравецкай. Маці Алеся адмовілася размаўляць.

**Сяргей Гудзілін, Зміцер Панкавец**



Сяргей Гудзілін

Бацька развітваецца з Алесем Чаркашыным.

Нават на вайне Алесь Чаркашын не ўпускаў магчымасць узяць у рукі гітару. Замест медыятара выкарыстоўваў патрон.

У інтэрнэце захаваўся надзвычай пранізлівы спеў Тараса на верш Ларысы Геніюш. Сёння гэтыя радкі ўспрымаюцца як прарочыя.

**Ларыса Геніюш**

***

Між белых камлёў захісталася смерць.
Яна за аддзелам начамі качуе.
Мо заўтра зноў будуць сасонкі шумець
Над намі, а мы ўжо жыцця не пачуем…

Ніхто ж не баіцца, ніхто не дрыжыць!
Йдзем волі насустрач шляхамі святымі.
Назначана жыць нам, так будзем жа жыць,
гатовы на мукі за шчасце Радзімы.

Хоць цені пагрозаў снуюцца ў бары,
выходзім!
Мігаюць падковамі коні.
Я — з вамі! Ах, мілы,
вазьмі — мы ж сябры,
сябры з-пад адное каханай Пагоні.

**Рэкамендуем**

### У беларускім падполлі яго звалі «Смерч»

Пра Алеся Чаркашына ўспамінае ягоны сябар юнацтва з Берасця Аляксандр Ахмач.

**Чытайце на nn.by.**

# Міхалевіч: Я вярнуўся, бо хачу быць са сваёй сям'ёй, хачу жыць у адзінай роднай для сябе краіне

**8 верасня экс-кандыдат у прэзідэнты прыехаў у Беларусь пасля 4,5 года эміграцыі.**

Міхалевіч заставаўся адзіным удзельнікам Плошчы-2010, супраць якога не была спыненая крымінальная справа. Міхалевіч быў затрыманы ў дзень выбараў, хоць і не заклікаў сваіх прыхільнікаў на Плошчу.

Алесь Міхалевіч ехаў у Беларусь цягніком з Вільні. На памежным пераходзе Гудагай яго знялі з цягніка, некалькі гадзін пратрымалі ў астравецкай міліцыі, але ў выніку адпусцілі.

«Чаму я вярнуўся? Бо хачу быць са сваёй сям'ёй, хачу жыць у адзінай роднай для сябе краіне. Гэта абсалютна натуральныя жаданні, — сказаў Міхалевіч у інтэрв'ю «НН». — Я шмат разоў казаў, што вярнуся ў Беларусь, калі ўсе палітвязні будуць на волі. Калі толькі Мікалай Статкевіч і астатнія выйшлі з турмы, я пачаў збірацца ў Беларусь, але нейкі час заняло вырашэнне бытавых пытанняў, звальненне з працы ў Чэхіі.

Цяпер я знаходжуся пад падпіскай аб нявыездзе, хаця саму паперу я не падпісаў. Гэта нейкі нонсэнс. Атрымліваецца, што раней я не мог уехаць на тэрыторыю Беларусі, а цяпер не магу выехаць.

Сёння я быў гатовы да ўсяго. Быў гатовы ехаць у турму КДБ, так званую «амерыканку». Беларусь — гэта непрадказальная краіна, тут можна чакаць чаго заўгодна.

Тое, што мяне адпусцілі, стала нечаканым і вельмі прыемным сюрпрызам. Я чуў, што за мной з СІЗА выехала машына з Мінска. І мяне перададуць Следчаму камітэту».

Міхалевіч кажа, што не ведае, хто мог прыняць рашэнне адпусціць яго: «Я не быў у Беларусі 4,5 года, я не ведаю, як цяпер працуе сілавы механізм. Пахаджу на допыты, убачу».

Пакуль Алесь не адказвае наўпрост, ці збіраецца ён вяртацца ў палітыку. «Галоўны план у мяне — вярнуцца дадому, да жонкі, да дзяцей, да самых любімых у маім жыцці людзей».

Алесь Міхалевіч удзельнічаў у прэзідэнцкіх выбарах 2010 года. 19 снежня, пасля акцыі апазіцыі, ён быў затрыманы, правёў у следчым ізалятары КДБ каля двух месяцаў, абвінавачваўся па крымінальным артыкуле «арганізацыя масавых беспарадкаў». Пасля вызвалення з СІЗА пад падпіску аб нявыездзе Міхалевіч правёў прэс-канферэнцыю, на якой паведаміў, што ўмовай ягонага вызвалення стала дадзеная пад катаваннямі згода на наступнае супрацоўніцтва са спецслужбамі. Праз некалькі дзён Міхалевіч таемна пакінуў Беларусь і папрасіў палітычнага прытулку ў Чэхіі.

**ЗП**



Аляксей Францкевіч

# Маркоўны сок для Віктара Іванавіча

Піша **Аляксандр Фядута.**

Народ здзіўляецца, чаго выбаркамы раптам да Віктара Цярэшчанкі прычапіліся. Магу растлумачыць.

Падазраю, што збольшага я вінаваты. Вырашыў я павіншаваць Мікалая Статкевіча з вызваленнем, патэлефанаваў.

Статкевіч — чалавек дасведчаны. Бярэ быка за рогі адразу:

— Хачу параіцца. Які б ты сцэнар выкарыстаў?

І тут я лахануўся. Як гаворыцца, паветра кіеўскай свабоды сыграла злы жарт. І я выпаліў тую ідэю, якую абдумваў некалькі сутак, проста ў тэлефон.

Ідэя была простая. Усе дэмакратычныя сілы прызнаюць, што выбараў у Беларусі няма і што мы маем справу з клаўнадай. Але калі так, давайце гуляць клаўнаду. Толькі да канца. Тым больш што за байкот агітаваць нельга.

Што нам застаецца? Агітаваць не супраць, а — за. Гэта значыць, прызначыць кандыдата «супраць усіх». І агітаваць за яго — абсалютна легальна. Толькі трэба прызначыць «кандыдата пустое месца», у сур'ёзнасць якога ніхто не верыць.

Статкевіч хмыкнуў.

— Хто той «чалавек ніхто»?

— А чым табе дрэнны Цярэшчанка? Не Гайдукевіч і не Улаховіч, няма такой бурнай гісторыі, як у першага, і такой прарасейскай рыторыкі, як у другога.

— Я падумаю.

Раніцай у аўторак убачыў я ў фэйсбуку Някляева і вырашыў пахваліцца, што пагаварыў-такі з «палітычным вызваленым №1». Някляеў буркнуў:

— Мы з ім сустракаліся ўжо.

— А пра маю ідэю наконт Цярэшчанкі ён Вам расказваў?

— А ну-ка, раскажыце! — зацікавіўся Уладзімір Пракопыч.

Ужо праз чатыры гадзіны той жа Някляеў сам пагрукаў у фэйсбук:

— Фядута, Лукашэнку Вы наўрад ці паваліце, але вось Цярэшчанку завалілі!

І Някляеў скінуў мне спасылку на сайт «Беларускі партызан», на якім з'явілася інфармацыя аб тым, што ў Віктара Іванавіча Цярэшчанкі пачаліся праблемы з подпісамі.

— Язэпавіч, Вы што — па тэлефоне са Статкевічам размаўлялі?

— Ну, так...

— Мала Вас у «амерыканцы» трымалі.

Атрымліваецца: праслухоўваюць! Магчыма нават, што без санкцыі.

На 28 жніўня Мікалай Статкевіч прызначыў прэс-канферэнцыю, на якой паабяцаў абвясціць свой план. Паколькі ніхто не ведаў, які менавіта план ён збіраўся абвясціць, тым, хто праслухоўваў нашу тэлефонную размову, трэба было нешта тэрмінова рабіць.

І раніцай Віктар Іванавіч так удала выпівае маркоўны фрэш у кафэ «Грунвальд», што яго забірае хуткая дапамога!

Гэта значыць, калі Статкевіч і вырашыць яго «запускаць», то Цярэшчанку вымушаюць зняцца «па стане здароўя». Усім дзякуй, як кажуць, усе вольныя. І Лідзіі Ярмошынай значна менш працы.

*Друкуецца ў скароце.*



**ЦВК забракаваў подпісы, здадзеныя ў падтрымку Віктара Цярэшчанкі, прызнаўшы сапраўднымі толькі 6900 подпісаў. Перад гэтым Цярэшчанка трапіў у бальніцу з моцным атручаннем пасля наведвання кавярні «Грунвальд».**

РАДЫЁ «СВАБОДА»

# Чаму я буду галасаваць за Караткевіч

Піша **Стась Карпаў.**

У мінулы раз я галасаваў за Статкевіча і ні разу не шкадаваў, цяпер прагаласую за Таню — і не пашкадую. Адказваючы на пытанне, ці няма ў тых, хто падтрымліваў Мікалая, а цяпер Таню, канфлікту сімпатыяў, — скажу, што няма. Справа ў тым, што я не прыносіў васальнай вернасці ні першаму кандыдату, ні другому. У 2010-м я галасаваў за Статкевіча, бо мне з усіх кандыдатаў найбольш падабаўся Статкевіч, а ў гэтым, 2015-м, — Караткевіч.

Які выбар у мяне? Ёсць Улаховіч, якога ў некаторым сэнсе хочацца назваць мяккім і арганічным, маючы на ўвазе, натуральна ж, мяккасць характару і арганічнасць беларускага казацтва. І ёсць наша матэматычная, а лепей сказаць арыфметычная, канстанта — свет Рыгоравіч.

Да іх усіх у нашай «апшчэсцвеннасці» прэтэнзіяў няма. Ёсць толькі да Тані, ці лепей так: яна і Лукашэнка — двуадзінае зло, якое мусіць быць пераможана кандыдатам, імя якому — байкот.

Тады пра байкот. Скажам шчыра: не мой кандыдат, і ў гэтага кандыдата ёсць бэкграўнд, які проста немагчыма, мой дарагі чытач, ігнараваць. На працягу чалавечай гісторыі ён, наколькі мне вядома, нідзе нічога не дамогся і нават не мае механізму, для таго каб перамагчы.



**Таццяна Караткевіч наведала футбольны матч Украіна — Беларусь. У Львове яе прымаў мэр горада Андрэй Садовы.**

Нехта ўпіе: няўжо вы думаеце, што Таня можа перамагчы Лукашэнку?

Ладненька, я так не думаю, але маю сустрэчнае пытанне: няўжо вы думаеце, што байкот можа перамагчы Лукашэнку?

Мне цікава, а колькі вы гатовы чакаць прэзідэнта, які вас задаволіць? А калі Лукашэнка заўтра, ну, «знікне» і выбары будуць адбывацца паміж Таняй, Гайдукевічам і Улаховічам — вы зноў прагаласуеце за байкот? Ці ўсё ж за Таню? Калі за Таню, дык, значыць, зараз вы проста вырашылі падтрымаць Лукашэнку? Спіс вашых прэтэнзіяў да яго «лягчэйшы» за вашы падазрэнні ў тым, што Таня не сабрала сто тысяч подпісаў? Ах, як мне цяжка паміж вамі, анёламі... Мне, ведаеце, млосна ад вашай любові да сваёй дасведчанасці і непахіснай упэўненасці ва ўласнай глыбіні, і «як казаў Заратустра», некаторыя «сядзяць цэлымі днямі з вудамі на балоце і таму лічаць сябе глыбокімі, але хто вудзіць там, дзе няма рыбы, таго не назаву я нават павярхоўным».

Што тычыць мяне, мне падаецца, што «няўдзел» у гульнях, арганізаваных дзяржавай, — гэта не дзеяслоў і не дзеянне. Не ўдзельнічае ў лукашэнкаўскіх гульнях і «тунгус, і друг степей калмык», і афрыканскі пігмей, але ён не патрабуе маёй увагі і не прэтэндуе на званне носьбіта адказаў.

*Друкуецца ў скароце.*

**Цытата**



## Дзмітрыеў: **У дзярме быць нястрашна**

«Скажу вам шчыра, у мяне асабіста пакуль няма разумення, як нам правільна правесці 11 кастрычніка, — сказаў кіраўнік перадвыбарчага штаба Таццяны Караткевіч Андрэй Дзмітрыеў. — З аднаго боку, людзі маюць права на мірны пратэст. З іншага боку, гледзячы на тое, што адбываецца ва Украіне, і на неадэкватную пазіцыю рускіх, разумею, што і ўнутры беларускай улады ёсць група цалкам неадэкватных людзей, якія гатовыя на любую правакацыю, я не ведаю, што рабіць. Мы б выйшлі як мірныя людзі, а супраць нас зладзілі б правакацыю. І тады мы ўсе будзем не ў дзярме, як вы нас палохаеце, а ў крыві. У дзярме быць нястрашна, можна ісці далей і даказваць людзям сваю рацыю. А быць у крыві — гэта зусім іншае. Мы будзем думаць над 11 кастрычніка».

## Выбары сцісла

### Статкевіча палохалі ў мінскай міліцыі, ён ставіцца з іроніяй

Былы палітвязень Мікалай Статкевіч 10 верасня плануе правесці пікет каля ГУМа з патрабаваннем свабодных выбараў. За два дні да гэтага Статкевіча да сябе выклікаў кіраўнік мінскай міліцыі Аляксандр Барсукоў. Статкевіч спрабавалі выпісаць папярэджанне аб правядзенні несанкцыянаванай акцыі, але ён адмовіўся яго падпісваць. Ад сваіх планаў палітык не адмаўляецца, а да пагроз ставіцца з іроніяй.

### Подпісы Караткевіч не праверылі

У заяве незалежнай «Грамадскай камісіі па ацэнцы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Беларусі Таццяны Караткевіч» гаворыцца, што выбарчы штаб Караткевіч, спачатку афіцыйна пацвердзіўшы сваю згоду перадаць неабходныя подпісы, у выніку фактычна адмовіў у праверцы копіяў усіх здадзеных у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі 107 299 подпісаў і заяваў, што можа перадаць абмежаваную колькасць, не болей за 70 000—80 000. У такім выпадку камісія адмовілася ад праверкі.

### БНФ больш не падтрымлівае Караткевіч

Такое рашэнне прыняў жнівеньскі Сойм Партыі. «Удзел нашай партыі ў гэтай кампаніі падарве рэпутацыю партыі БНФ як нацыянальна арыентаванай партыі», — сказаў старшыня БНФ Аляксей Янукевіч. За выхад з кампаніі прагаласавала 18 чалавек, супраць — 11, двое ўстрымалася.

### Улаховіч бачыць сябе ва ўрадзе

«Я бачу сябе ва ўрадзе на трох пасадах, але яны цяпер занятыя. Я не буду згаджацца на любую прапанову. Таму зараз я б пайшоў толькі на пэўную працу, але пакуль мяне ва ўрад не клікалі», — сказаў патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты, атаман Мікалай Улаховіч у інтэрв'ю сайту naviny.by.

ЗП

# «Футбол — 90 хвілін, пабрацімства назаўжды»

Адборачны матч да чэмпіянату Еўропы Украіна — Беларусь, што прайшоў у Львове 5 верасня, запомніцца не столькі крыўднай паразай беларусаў, колькі трыбунамі. Фанаты абедзвюх каманд стварылі на стадыёне **непаўторную атмасферу братэрства і свята**.

Перформанс на трыбунах «Львоў-Арэны» стаў працягам леташняга братання фанатаў дзвюх краін у Барысаве. Тады заўзятары скандавалі палітычныя лозунгі і песні пра Пуціна, чым надта раз'юшылі беларускі афіцыёз. «Адбылася катастрофа», — так старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька пракаментаваў паводзіны заўзятараў.

Але на гэты раз беларускія ультрас пайшлі яшчэ далей, паказаўшы, што яны адкрыта падтрымліваюць Украіну ў супрацьстаянні з Расіяй і хочуць заўзець за зборную з нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам. Упершыню так сталася, што ўвесь гасцявы сектар быў завешаны толькі бчб-сімваламі, на ўсім 35-тысячным стадыёне знайшося месца толькі для аднаго афіцыйнага чырвона-зялёнага сцяга.



На трыбунах быў толькі адзін чырвона-зялёны сцяг і дзясяткі бел-чырвона-белых.

Нацыянальнае яднанне было каласальным. Сотні беларускіх фанатаў у майках з «Пагоняй», яны запаланілі Львоў за дзень да пачатку гульні,

«Жыве Беларусь!» — гучны вокліч чуўся на кожнай вуліцы і ў кожным бары, дзе сустракаліся кампаніі беларусаў. Людзі ахвотна казалі і рабілі тое, што забаронена на радзіме.

«Януковіча больш не вешаем на мішэнь, бо прыехалі беларусы і просяць вешаць партрэт Пуціна», — прызнаўся журналісту «Нашай Нівы» дзяжурны ў пнеўматычным ціры бара «Криївка», які вядомы сваёй стылізацыяй пад зямлянку УПА.

«Раскупілі запальнічкі з надпісам ПТН-ПНХ», — ківаючы на беларусаў, сцвярджалі прадавачкі на блышыным рынку.

Нашы ультрас ва ўсім імкнуліся падкрэсліць салідарнасць з украінцамі — ад дэманстратыўных маек з прынтамі аб'яднанай «Пагоні» і Трызуба, да здачы крыві на патрэбы параненых у АТА салдатаў.

«У мяне рэдкая, 4-я, група крыві, камусьці яна спатрэбіцца», — казаў 18-гадовы хлопец з Мінска, які прыехаў на футбол разам з бацькам-бізнэсоўцам.

У гэтым і выключнасць сітуацыі — падтрымліваць зборную з нацыянальнымі сімваламі прыехалі не толькі радыкальныя фанаты, хуліганы, але і звычайныя людзі, далёкія ад бунтарскага духу ультрас.

«Мы з сябрамі вернікі, у Львове піва не п'ем, прыехалі выказаць падтрымку нашым гульцам», — расказвалі журналісту ў рэстаране тры дзецюкі з бела-чырвона-белымі шалікамі на шыях. «А мы студэнткі, вырваліся ў пятніцу з універа, хоць вучоба толькі пачалася», — казалі дзяўчаты ў вышымайках за суседнім столікам.


Тарас — завадзіла ўкраінскіх фанаў — дэманстратыўна адзеў майку з «Пагоняй».



У Львоў прыязджалі не толькі хуліганы, але і звычайныя заўзятары.

А прэлюдыяй да футбольнай сустрэчы стаў «фанацкі марш», які супольна зладзілі аматары дзвюх камандаў перад гульнёй. Каля стэлы ў гонар загінулых чырвонаармейцаў сабралася тысяча чалавек, якія мусілі маршам прайсці да стадыёна. Пры гэтым ніякіх канфліктаў паміж фанатамі каманд, як тое звычайна здараецца, не было. Наадварот — авангард калоны расцягнуў вялізны банер «Братэрства сумлення», і пад жоўта-блакітнымі і бела-чырвона-белымі сцягамі калона рушыла. Неўзабаве пачулася вядомая песенька пра Пуціна, за ёй — патрыятычныя скандаванні «Жыве Беларусь» ды «Слава Украіне». Зрэшты, фанацкі марш аказаўся маленькай рэпетыцыяй таго перформансу, які потым фанаты зладзілі на «Львоў-Арэне». Праўда, у гэты момант асабліва адчувалася і розніца ў менталітэтах: беларусы не гатовыя падтрымаць найбольш адыёзныя крычалкі ўкраінцаў. Запомнілася такая карціна: тузін радыкальных фанатаў пад жоўта-блакітным сцягам пачаў спяваць песню са словамі «бі маскаля — складайце трупы». А ў адказ беларусы пераглянуліся і... зацягнулі «Купалінку».

Найчасцей жа крычалі «Разам!» — з аднаго боку трыбун. «Назаўжды!» — адказвалі з супрацьлеглага. «Завадзіла» ўкраінскага фанацкага сектара Тарас быў адзеты ў чорную саколку з «Пагоняй», а сам сектар быў упрыгожаны расцяжкаю на ўкраінскай мове «Футбол — 90 хвілін, пабрацімства назаўжды». У адказ беларусы распрасталі над сваім сектарам расцяжку з «Трызубам» і словамі «Трымайцеся, браты».

А калі фанаты пачалі крычаць «Жыве Беларусь», то гэты вокліч падхапіў амаль што ўвесь 35-тысячны стадыён. І хоць беларусаў было ў разы меней за ўкраінцаў, чуваць іх было добра. Відаць таксама — бела-чырвона-белыя сцягі не толькі абляплялі гасцявы сектар «Львоў-Арэны», але і сям-там віднеліся па ўсім стадыёне: іх трымалі беларусы, якім не хапіла месца на гасцявым сектары, і проста салідарныя з Беларуссю ўкраінцы.

Але ў другім тайме адбылася неспадзяванка — беларускі сектар раптам стаў неасветленым. Можа быць, такая дамінацыя нацыянальных сімвалаў камусьці не спадабалася. Тым больш што на «Львоў-Арэну» чакаўся візіт Лукашэнкі — пра гэта казаў мэр Львова. Зрэшты, Лукашэнка не прыехаў. Мо яно і да лепшага — у агульную атмасферу свабоды на стадыёне ён не ўпісваўся.

Пасля матча фанаты разам пайшлі па львоўскіх барах. Хтосьці святкаваў перамогу, хтосьці смуткаваў праз паразу.

Варта адзначыць, што гэтым разам ніякага асуджэння ў бок фанатаў ад беларускіх уладаў не прагучала. На айчынных ультрас накінуліся толькі асобныя расійскія фанаты, якіх абурыла непрыкрытая падтрымка Украіны.

**Арцём Гарбацэвіч, фота Ірыны Арахоўскай, Львоў — Мінск**

# Папулярызацыю беларускай мовы ў Гродне залічылі да шкодных з'яў

**А цяпер ніхто не прызнаецца**, чыя то была ініцыятыва.

Беларусаў працягваюць дзяліць на «правільных» і «няправільных». Пра гэта сведчыць дакумент «Формы и методы реализации молодежной политики в городе Гродно», апублікаваны на сайце сярэдняй школы №22 горада Гродна.

«Папулярызацыя беларускай мовы» курсамі «Мова нанова» ў дакуменце пералічана ў шэрагу «негатыўных з'яваў». Да негатыву аднесяць і любую незалежную грамадскую дзейнасць.

У раздзеле «Негатыўныя з'явы ў моладзевым асяроддзі» адзначаецца, што «ў горадзе функцыянуюць і неканструктыўныя моладзевыя арганізацыі, такія як «Маладыя дэмакраты», «Моладзь БНФ», «Школа маладых журналістаў» і іншыя. Аднак дадзеныя арганізацыі нешматлікія, іх прадстаўнікі вядомыя, таксама лакалізаваныя месцы сустрэч прадстаўнікоў гэтых арганізацый. ...Апошнім часам атрымаў актыўнае развіццё новы кірунак сярод неканструктыўных арганізацый — папулярызацыя беларускай мовы, традыцый і абрадаў, прэзентацыі кніг. Такім чынам дадзеныя арганізатары спрабуюць падмяніць запаветныя для беларусаў каштоўнасці і падаць грамадству ўсю беларускую культуру толькі з вузкага нацыяналістычнага пункту гледжання. Такім яскравым узорам з'яўляецца дзейнасць курсаў «Мова на Нова» (так у арыгінале — Рэд.), раздача «вышыванак» і інш.».

Такім чынам, свабода слова і клопат пра сваю нацыянальную мову і культуру — гэтыя дзве базісныя асновы еўрапейскай цывілізацыі — афіцыёз параўнейшаму адносіць да шкодных з'яваў. Праўда, калі раней іх носьбітаў называлі «дэструктыўнымі», то цяпер выкарыстоўваюць мякчэйшы тэрмін «неканструктыўныя».

Сказ «лакалізаваныя месцы сустрэч прадстаўнікоў гэтых арганізацый» азначае, што за іншадумцамі вядзецца сачэнне.

Сярод сваіх дасягненняў гродзенскія ідэолагі называюць увагу да моладзевых субкультураў, у рамках якой адбываецца «цеснае ўзаемадзеянне з начнымі клубамі горада» і праводзенне там тэматычных вечарын. Яны скіраваныя на барацьбу з наркотыкамі і прапаганду здаровага ладу жыцця. Але і тут не абышлося без кур'ёзаў: да «карысных» танцавальных кірункаў былі залічаныя танцы гоу-гоу, блізкія да стрыптызу.

Пасля таго, як дакумент пачалі абмяркоўваць незалежныя СМІ, ён знік з сайта школы. Хто ж яго склаў? Упраўленне адукацыі Гродзенскага гарвыканкама адмаўляе, што гэта яны накіравалі паперу ў школу. «Хто аўтар, пакуль не ведаю. Дала заданне прааналізаваць, пракаментаваць пакуль не гатовая. Але гэты дакумент не праходзіў праз упраўленне адукацыі», — сказала Галіна Курганская, першы намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі.

Жанна Шумская, дырэктарка той самай школы №22, ад каментароў адмовілася: «Ведаеце, я пачала працаваць 1 верасня 2015 года, я новы дырэктар, былы дырэктар цяпер тут не працуе. Я ва ўсім спрабую разабрацца. Мы разбіраемся ў сітуацыі».

Яе намесніца Тацццяна Бурба ў інтэрв'ю «Народнай Волі» паведаміла сваю версію. Яна тлумачыць, што ліст трапіў па электроннай пошце і быў... вірусам. «Гэта такі хітры вірус, што ліст аўтаматычна загрузіў на сайт», — расказала Тацццяна Бурба. Канечне, лухту сказала, зманіла. А яшчэ педагог.

У гарадскім камітэце БРСМ паведамілі, што не маюць ніякага дачынення да таямнічага дакумента.

Дырэктары іншых гродзенскіх школ, адказваючы на пытанне, ці атрымлівалі яны той дакумент, рэагавалі па-рознаму. Адны катэгарычна казалі, што не атрымлівалі, іншыя адмаўляліся ад каментароў.

Цікава, што гэтак сама, як і той дакумент — «Формы и методы реализации молодежной политики в городе Гродно» — называўся семінар для намеснікаў старшынь гар- і райвыканкамаў Гродзенскай вобласці, што курыруюць пытанні ідэалагічнай работы, які прайшоў у Гродзенскім аблвыканкаме 18 сакавіка.

**Улад Швядовіч, СГ**

# «Наперадзе яшчэ больш складаныя часы»

Сітуацыя на валютным рынку стабілізавалася, аднак **курсы валют усё адно растуць**.

«У нас наперадзе, магчыма, яшчэ больш складаныя часы, і дай бог нам бось так прайсці, як мы сёння ідзём. Сітуацыя ў свеце ад нас не залежыць. Мы павінны да яе прыстасавацца, і мы гэта павінны разумець», — папярэдзіў насельніцтва Аляксандр Лукашэнка, прымаючы старшыню Нацбанка Паўла Калаўра.

Сусветныя цэны на нафту адштурхнуліся ад дна — барэль «Брэнта» цяпер каштуе $49 у параўнанні з $43 два тыдні таму. У які бок лічбы пойдуць далей? Эксперты маюць палярныя меркаванні.

Але ў Беларусі курсы не адкруціліся назад. Даляр і еўра блізка ад рэкордных значэнняў — 17816 і 19922 рублі адпаведна, у абменніках яшчэ вышэй.

Курс расійскага рубля трымаецца на ўзроўні каля 260 беларускіх рублёў. Летась у сярэдзіне года беларускім прадпрыемствам-экспарцёрам вольна дыхалася пры курсе 285—295 рублёў. У параўнанні з той сітуацыяй беларуская валюта пераацэненая на 10%.

Аднак чэргаў каля абменнікаў усё адно няма. З аднаго боку, заробкі ад мінулай дэвальвацыі не індэксаваліся, таму на руках у насельніцтва няма свабодных грошай. $340 «чыстымі» — гэта адзін з найніжэйшых паказчыкаў у Еўропе.

З іншага — улада пакуль не дэманструе намеру штучна стрымліваць курсы. «Дзякуючы таму, што мы перайшлі на плаваючы курс і ні ў якім разе штучна не стрымліваем курс нацыянальнай валюты адносна іншых валют, нам усё ж такі ўдалося пераканаць насельніцтва, што мы з ім у гульні гуляць не будзем. І гэта слушна, нам трэба прытрымлівацца такой пазіцыі», — кажа Лукашэнка. Свабодны курс — рынкавае рашэнне, але ў астатніх сферах эканомікі рэформаў бракуе.

**Ягор Марціновіч**

# Змаганне з расійскім алкаголем за беларускі

У лютым 2015 года расіяне раптам атрымалі нечаканы падарунак ад уладаў — гарэлка патаннела адразу на 16%. Афіцыйна ўлады патлумачылі, што такім чынам — зніжэннем цаны, пачынаецца барацьба з кантрафактнай прадукцыяй. Па статыстыцы, жыхары абшараў РФ ужываюць занадта шмат някаснага алкаголю, які каштуе «з рук» вельмі танна. У Расіі вырашылі знізіць цэны на «легальны алкаголь» для таго, каб захаваць здароўе сваіх грамадзян. Нібыта так.

Недарагая гарэлка не магла застацца па-за ўвагай беларусаў, асабліва тых, хто любіць там купіць (танна), тут збыць (даражэй). І пацягнуліся алкагольныя караваны праз мяжу з усходу на захад. Тым часам продажы беларускай гарэлкі падаюць. Ды так, што нават кіраўнік дзяржавы занепакоіўся. Алкаголь жа — прыбытак для казны, а дзяржава недаатрымала акцызаў. І выказаўся на адмысловым пасяджэнні, што кантрафактная прадукцыя з Расіі і іншых дзяржаў «задушыла краіну». Кіраўнік дзяржавы загадаў «абараніць рынак», нават параіў праводзіць канфіскацыю транспартных сродкаў, на якіх «вогненная вада» трапляе ў краіну.

Эксперты кажуць, што ценявы рынак алкаголю ў Беларусі ацэньваецца ў 200 мільёнаў даляраў у год.

## Ценевы рынак алкаголю ў Беларусі ацэньваецца ў 200 мільёнаў даляраў у год

Праваахоўныя органы і падатковая ў Гомельскай вобласці дзень праз дзень затрымліваюць буйныя партыі гарэлкі расійскай вытворчасці без акцызных марак. Так, на мінулым тыдні «прагарэў» жыхар Навабеліцкага раёна Гомеля. Яго злавілі падатковая і міліцыя падчас сумеснага рэйду. Па паведамленні Інспекцыі па падатках і зборах па Гомельскай вобласці, пры даглядзе аўтамабіля парушальніка знойдзена расійская гарэлка «Царская охота» з падробленымі федэральнымі акцызнымі маркамі РФ у колькасці 700 бутэлек ёмістасцю 0,5 літра. Паводле папярэдняй ацэнкі цана партыі нелегальнага алкаголю склала 56 мільёнаў рублёў. І плюс за незаконны зварот алкагольных напояў грамадзяніну пагражае штраф у 18 мільёнаў.



Трапіўся ў нерат падатковай і жыхар Мазыра, які на пачатку жніўня незаконна захоўваў дома расійскую гарэлку, а таксама віскі, тэкілу, брэндзі, ром і каньяк больш як на 332 мільёны рублёў. Яшчэ на 12 мільёнаў у жыхара палескага райцэнтра забралі спірту ў поліэтыленавых каністрах без этыкетак. Такім чынам, увесь алкаголь і спірт на 344 мільёны канфіскаваны. Парушальніку за незаконны зварот падакцызнай прадукцыі акрамя канфіскацыі тавару пагражае штраф у 36 мільёнаў.

Займеў праблемы з падатковай і гамяльчук, які таксама трапіўся за кантрафактны расійскі алкаголь, на агульную суму больш за 47 мільёнаў. На алкагольныя напоі накладзены арышт. Парушальніку пагражае штраф і тлумачэнні для падатковай — адкуль грошы на гарэлку.

Па дадзеных МУС, за 5 месяцаў гэтага года канфіскавана ўжо 525 тысяч літраў алкаголю, пераважна расійскага паходжання.

У Беларусі выпуск гарэлкі знізіўся на 27,5% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, каньяку — на 37,2%, вінаградных він — на 1,9%.

**Юлія Шымкевіч**

**Меркаванне**

## Піце, дзеткі

Загубілі два добрыя пачынанні міліцыі.

У сакавіку ў Бабруйску міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч адзначыў, што любое абмежаванне з алкаголем ідзе толькі на карысць нармалізацыі крымінагеннай абстаноўкі. І пахваліўся: штодня яго падначаленыя затрымліваюць кантрафактнае спіртное, знішчаюць дзясяткі тон брагі для самагону.

Аднак пачаліся праблемы з напаўненнем бюджэту, прайшла «нарада ў кіраўніка дзяржавы» ў канцы жніўня — і вось ужо адменена забарона на продаж алкаголю ў крамах уначы.

Відаць, і павышэння цэнзу ўжывання алкаголю з 21 года не адбудзецца. Хоць за гэта каторы год выступаюць Міністэрства аховы здароўя, МУС, Генпракуратура.

Грошы, грошы важнейшыя.

Дарэчы, некалькі гадоў таму папулізм загубіў яшчэ адно добрае пачынанне МУС. У Беларусі ў канцы 2003 года прынялі папраўку, згодна з якой блізкае святло фар на аўто стала абавязковым у любы час сутак з 1 лістапада па 31 сакавіка. Але Лукашэнка раскрытыкаваў дaішнікаў за іх нованўвядзенне. «Едзеш іназіраеш: сонца гарыць, святло — лепш не прыдумаеш, а машына едзе з уключанымі фарамі».

Праз два дні новаўвядзенне адмянілі.

На мінулым тыдні скончылася такое комплекснае мерапрыемства «Увага — дзеці!»: трэ' было з 25 жніўня па 5 верасня ездзіць з блізкім святлом фар увесь час. Дзеці пайшлі ў школу, і быць пільнымі трэба — святло фар звяртае ўвагу дзяцей, гэта даказана псіхолагамі. Цудоўна! Толькі дзеці ходзяць у школу 9 месяцаў, а не толькі падчас акцыі.

Паўмера, якая выяўляе бездапаможнасць цэлага міністэрства перад крытыкай аднаго чалавека. У Еўропе ездзяць са святлом абавязкова. Дaішнікі адчуваюць сваю рацыю, але вось пераканаць Лукашэнку ў правільнасці адмененай адзінаццаць гадоў таму меры не могуць альбо не асмельваюцца.

**Сяргей Макарэвіч**

# Хто з сусветных лідараў прысутнічаў у Кітаі?

**Аляксандр Лукашэнка 1—3 верасня знаходзіўся ў Кітаі на святкаванні 70-годдзя перамогі ў Другой сусветнай вайне.**

Афіцыйная прапаганда падавала гэта як значную сусветную падзею, якая сведчыць пра ўсё большую магутнасць Кітая. «Гэта краіна — агульнапрызнаны лідар, магутны цэнтр прыцягнення ў працэсе ўзнаўлення шматпалярнай палітычнай і эканамічнай будовы свету. Хтосьці паспяшаўся навесіць на парад ярлык гульні мускуламі. Але гэта не так. Хаця рэльеф і сіла мускулаў больш, чым відавочная», — пісала ў перадавіцы газета «Советская Белоруссия».

Але калі прыглядзецца, дык ці настолькі прадстаўнічым быў парад у Кітаі? Варта адзначыць, што з лідараў Еўрасаюза ў Паднябеснай быў толькі прэзідэнт Чэхіі Мілаш Зэман. Ён вядомы сваім еўраскептыцызмам і прарасійскімі поглядамі. Але варта адзначыць, што ўлада ў Чэхіі належыць не прэзідэнту, а прэм'ер-міністру.

Былі таксама кіраўнікі Сербіі ды Босніі і Герцагавіны. З Босніяй цікавая рэч, што краінай адначасова кіруюць тры члены прэзідыума ад трох этнічных груп (харватаў, сербаў і баснійскіх мусульман). У Кітаі быў якраз прадстаўнік сербаў.

Ні для каго не сакрэт, што за апошні час Кітай нямала грошай укладае ў інфраструктуру афрыканскіх краін, а ўзамен атрымлівае доступ да карысных выкапняў, на якія багаты кантынент. Аднак прадстаўніцтва Афрыкі было не надта вялікім — пяць прэзідэнтаў.

Напрыклад, быў прэзідэнт Конга. У гэтай краіне вялікія запасы медзі, свінцу, урану, цынку, алмазаў. Кітай мае з Конга шматмільярдныя кантракты. Мабыць, можна назваць удачай прысутнасць у Пекіне кіраўніка Эфіопіі — краіны, якая імкліва развіваецца. Тым не менш не было, напрыклад, кіраўнікоў Замбіі, Танзаніі, Нігерыі — вельмі важных на афрыканскім кантыненце краін.

Затое быў кіраўнік Судана Амар Башыр — яго, дарэчы, чакае суд у Міжнародным крымінальным судзе ў Гаазе. Башыра абвінавачваюць у ваенных злачынствах і злачынствах супраць чалавечнасці, здзейсненых падчас канфлікту ў Дарфуры.

Былі Пуцін і Назарбаеў. Былі таксама кіраўнікі азіяцкіх краін, якія сапраўды залежаць ад Кітая, і якіх можна назваць сатэлітамі гэтай краіны: Таджыкістан, М'янма, Лаос, В'етнам, Камбоджа. Тым не менш назваць гэтыя мерапрыемствы вельмі прадстаўнічымі не выпадае.

**Зміцер Панкавец**

**За жнівень золатавалютныя рэзервы Кітая знізіліся на $94 млрд**

Парад у Кітаі адбываўся на фоне беспрэцэдэнтнага крызісу, які апанаваў гэтую краіну. За жнівень золатавалютныя рэзервы Кітая знізіліся на $94 млрд, паведамляе агенцтва «Блумберг». Гэта гістарычны рэкорд. Ніколі яшчэ Кітай не траціў столькі на падтрыманне курса юаня. І гэта нягледзячы на 5-працэнтавую дэвальвацыю кітайскай валюты.

Праўда, золатавалютныя рэзервы Кітая агромністыя. На сёння яны складаюць прыкладна 3560 мільярдаў. І тым не менш эканамісты ўспрынялі інфармацыю як чарговы трывожны званочак адносна стану кітайскай гаспадаркі.

Для параўнання, золатавалютныя рэзервы Беларусі на сёння — каля 4,6 млрд даляраў, Польшчы — 104 млрд, Расіі — 366 млрд.

**СГ**



**Парад лідараў краін у Пекіне. Справа Аляксандр Лукашэнка з сынам Мікалаем — хлопчык быў адзіным не кіраўніком дзяржавы тут.**

# Алесін: Кітай Расію абганяе ў вайсковых напрацоўках

Аляксандра Лукашэнку ў Кітаі суправаджалі міністр абароны Андрэй Раўкоў і кіраўнік Вайскова-прамысловага камітэта Сяргей Гурулёў. Якія супольныя інтарэсы могуць быць у Беларусі і Кітая ў пытаннях узбраенняў і вайсковых тэхналогій? Мы спыталіся пра гэта ў вайсковага аглядальніка Аляксандра Алесіна.

«Калі браць апошнія падзеі, то Кітай — наш партнёр па вытворчасці рэактыўных сістэм залпавага агню «Палянэз». Гэта аператыўна-тактычны комплекс з радыусам паражэння да 280 кіламетраў. Беларусы ў «Палянэзе» вырабляюць шасі, пускавую ўстаноўку, электронные начынне, а Кітай — саму ракету.

У пытанні новых вайсковых тэхналогій Кітай здагание перадавыя краіны Захаду і Расію. Што тычыць рэактыўных сістэм залпавага агню, то тут Кітай займае вядучае месца ў свеце, тое самае ў танках.

У авіяцыі Кітай яшчэ адстае, бо не мае рухавікоў з салідным рэсурсам. Яны скапіявалі расійскія Су-27, выкарысталі частку напрацовак Ізраіля, частку скапіявалі з амерыканскіх аналагаў».

**ЗП**

# Малдаване патрабуюць пакончыць з постсаветызмам

**У Кішынёве мітынгоўцы паставілі намёты.**

Ядро пратэсту склала моладзь з прыгарадаў. Удзельнікі акцыі пратэсту заявілі, што маюць намер пашырыць намётавы гарадок і не сыдуць, «пакуль не атрымаюць адказы ад уладаў».

Пратэстоўцы патрабуюць абнаўлення палітычнага класа ў краіне, еўраінтэграцыі і адстаўкі ўрада.

Раней стала вядома, што па падазрэнні ў арганізацыі беспарадкаў на 72 гадзіны затрымалі экс-дэпутат парламента, лідар партыі «Наш дом — Малдова» Рыгор Пятрэнка і двое яго паплечнікаў.



**Тысячы малдаван патрабуюць перамен.**

У нядзелю ў Кішынёве ўдзел у пратэставай акцыі на плошчы Вялікага нацыянальнага сходу ўзялі дзясяткі тысяч людзей. Асноўным патрабаваннем акцыі з'яўляецца вяртанне Нацбанку €1 млрд, скрадзенага з камерцыйных банкаў пры папушчальніцтве папярэдняга ўрада.

**СГ**

# Узброены мяцеж у Таджыкістане

**Забіты 33 вайскоўцы, верныя прэзідэнту Рахмону.**

4 верасня ў ходзе нападаў у Душанбэ загінула 33 супрацоўнікі МУС і Мінабароны Таджыкістана, а таксама 9 вайскоўцаў з групоўкі мяцежнага намесніка міністра абароны, паведамілі інфармацыйныя агенцтвы.

Нападамі кіраваў былы намеснік міністра абароны Абдухалім Назарзада. Ён належаў да таджыкскай апазіцыі, што ваявала за ўладу ў 1990-я, а пасля, паводле пагаднення пра мір, атрымала 30% пасадаў у дзяржапараце.

На паза мінулым тыдні прэзідэнт Рахмон забараніў Партыю ісламскага адраджэння, што выйшла з узброенай апазіцыі 90-х і звольніў Назарзаду.

Як паведамляецца, Назарзада і 135 верных яму байцоў дэсантна-штурмавой брыгады Міністэрства абароны знаходзяцца за 45 кіламетраў на ўсход ад Душанбэ ў цясніне Раміт.



**Эмамалі Рахмон кіруе Таджыкістанам ад 1994 года, як Лукашэнка Беларуссю.**

Таджыкістан уваходзіць у Арганізацыю дамовы аб калектыўнай бяспецы разам з Беларуссю.

Грамадзянская вайна 90-х ішла між ісламістамі і посткамуністамі. На чале апошніх стаяў прэзідэнт Рахмон. Пасля падпісання дамовы аб прымірэнні Рахмон паступова падмяў пад сябе ўсе структуры ўлады ў краіне.

На сітуацыю ў краіне моцна ўплывае вайна ў Афганістане, дзе жыве шмат таджыкаў, і падзенне эканомікі Расіі, у выніку якога шмат гастарбайтараў вымушаны былі вярнуцца дамоў беспрацоўнымі.

**Сяргей Гезгала**

# З'явіліся фотасведчанні, што Расія ўзмацняе прысутнасць у Сірыі

У тэлефоннай размове з міністрам замежных спраў Расіі Сяргеем Лаўровым дзяржсакратар ЗША Джон Керы выказаў занепакоенасць у сувязі з сітуацыяй у Сірыі.

У прыватнасці, Керы абмеркаваў з Лаўровым паведамленні ў СМІ аб «нарошчванні расійскай вайсковай прысутнасці там». Керы заявіў, што «калі гэтыя паведамленні адпавядаюць рэчаіснасці, то такія дзеянні могуць прывесці да далейшай эскалацыі канфлікту» ў Сірыі.

Раней у газеце *The Telegraph* быў апублікаваны матэрыял, у якім гаворыцца, што, паводле звестак крыніц, Расея дадаткова скіравала ў Сірыю некалькі соцень сваіх вайскоўцаў.

Акрамя таго, амерыканская разведка атрымала спадарожнікавыя фоты, якія сведчаць, што на сірыйскім вайсковым аэрадроме ў партовым горадзе Латакія разгорнута мабільнае жытло, здольнае прыняць да тысячы расійскіх вайскоўцаў. Тудысама дастаўлена мабільная дыспетчарская станцыя.

Латакія — бастыён сірыйскага дыктатара Асада, вакол Латакіі жывуць пераважна алавіты, з якіх паходзіць род Асадаў.

Стала вядома таксама, што краіны, якія мяжуюць з Сірыяй, атрымалі дадатковыя запыты на пралёт расійскіх вайскова-транспартных самалётаў.

Гаворка можа ісці пра найбуйнейшую ваенную аперацыю Расіі на Блізкім Усходзе ад 1980-х гадоў, калі таксама савецкія «ваенныя дарадцы» ўдзельнічалі ў войнах з Ізраілем на баку Сірыі.

Сілы Асада на сёння кантралююць каля траціны тэрыторыі Сірыі. Яшчэ дзве траціны папалі ў рукі розных уладаў. Курды і друзы кантралююць тэрыторыі, заселеныя гэтымі народнасцямі. Зону на поўначы, каля турэцкай мяжы, і вакол Дамаска, дзе жывуць суніты, адваявала ўмераная сірыйская апазіцыя.

Рэшта краіны трапіла ў рукі фанатычных ісламісцкіх груповак, якія ваююць як супраць Асада, так і між сабой. Гэта фронт «Нусра» — сірыйская адгалінаванне «Аль-Кайды», а таксама «Ісламская дзяржава», што ў сваім фанатызме і бесчалавечнасці пераплюнула «Аль-Кайду».



**Расійскія вайскоўцы ў Сірыі не саромеюцца выкладаць здымкі ў сацсеткі.**

Падборку фотаў, змешчаных расійскімі салдатамі ў Сірыі, сабраў украінскі блогер Мікалай Махно. На фотах можна бачыць не высокакваліфікаваных спецыялістаў, а шарагоўцаў.

**СГ**

# Дэпард'ё хоча пераехаць у Беларусь і пажыць «сярод мужыкоў»



Французскі акцёр Жэрар Дэпард'ё ў інтэрв'ю часопісу *Le Figaro TV Magazine* прызнаўся, што хоча прадаць усю маёмасць у Францыі і ў перспектыве збіраецца пажыць у Беларусі.

«Я думаю, што ўсё прадам у Францыі. Я не хачу быць больш часткай гэтай краіны, нават улічваючы, што я люблю французаў», — заявіў Дэпард'ё.

Адказваючы на пытанне журналіста пра тое, дзе ён будзе жыць, Дэпард'ё заявіў, што на дадзены момант ужо жыве ў Італіі, але ў перспектыве збіраецца пажыць у Беларусі, «сярод мужыкоў, бо там прыгожа і прэзідэнт — добры чалавек».

66-гадовы Дэпард'ё праславіўся як акцёр незвычайнага тыпажу.

Пад старыя гады ён, аднак, трапіў у шэраг скандалаў. Спачатку яго арыштавалі за кіраванне траспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення. Пасля ён адмовіўся ад пражывання ў Францыі і пераехаў спачатку ў Бельгію, а пасля ў Расію, каб плаціць меншыя падаткі. У Францыі такія паводзіны палічылі непатрыятычнымі.

**Сяргей Гезгала**

# Памёр грамадскі актывіст Уладзімір Кішкурна



77-гадовы Уладзімір Кішкурна разбіўся на сваім аўтамабілі, урэзаўшыся ў грузавік на трасе Берасце—Менск.

Здарэнне адбылося 2 верасня, Кішкурна ехаў на адпачынак у санаторый. Мяркуецца, што яму стала кепска за рулём — два гады назад ён перанёс інфаркт.

Яго даставілі ў бальніцу ў крытычна цяжкім стане, была пашкоджаная печань і лёгкія.

Уладзімір Кішкурна — інжынер, даўні ўдзельнік патрыятычнага руху. Ён доўгі час быў актывістам Партыі БНФ. Апошнім часам удзяляў у талоках у Курапатах, дапамагаў упарадкваць урочышча, ставіў крыжы. Летась быў заяўнікам шэсця ў нацыянальных строях, якое не дазволілі мінскія ўлады.

**Зміцер Панкавец**

### Спачуванні па Уладзіміру Кішкурну

Ёсць людзі, што паміраюць падчас гераічнага ўчынку. А ёсць тыя, хто ўсё жыццё гатовы прыйсці на дапамогу ў патрэбнай справе па першым жа званку. Без ваганняў, лішніх дыскусій, не зважаючы на забароны і пагрозы. Думаю, гэта не меншы подзвіг, а часам нават і большы.

Менавіта такім быў спадар Уладзімір...

**Барыс Гарэцкі**

Божа! Збіраліся раз’язджацца ў розныя бакі, а ў канцы месяца сустрэцца. Размаўлялі 31-га, калі хавалі Веру Чуйко. І цяпер... цяжка даць веры. Такіх энергічных і адданых Беларушчыне людзей вобмаль. Спачуваю ўсім родным і блізкім.

**Лявон Баршчэўскі**

Дзеда, ну як так?

**Саротнік Андрэй**

Цудоўны, светлы, пазітыўны, актыўны, наш чалавек... быў, язык не паварочваецца казаць гэтае слова — быў. Вечная памяць, спачуванні родным і блізкім!

**Алена Лапцёнак**

Вечная памяць! Выдатны чалавек.

**Сяргей Кручкоў**

Губляем такіх людзей... Спачуванні ўсім родным і блізкім.

**Рыгор Кастусёў**

Сышоў шчыры і светлы чалавек, руплівец і абаронца беларушчыны. Няхай Пан Бог прыме яго душу ў сваё валадарства на нябёсах і дасць суцяшэнне сям’і на зямлі.

**Юрый Меляшкевіч**

Госпадзе, якое жыццё! Разам на гэтай машыне ехалі на пахаванне Веры Андрэеўны Чуйко. Гаварылі пра незалежнасць, пра Беларусь... Нават у гэтай кашулі, што на здымку, быў ён. Вельмі добры, адданы Беларусі, самаахвярны чалавек быў спадар Уладзімір. Цяжка гаварыць «быў». Спачуванні родным, аднадумцам, усім беларусам.

**Валянцін Голубеў**

# Аналіз ДНК дапамог рашыць загадку баскаў

Аналіз ДНК парэшткаў старажытнага чалавека, мяркуючы па ўсім, дапамог вырашыць таямніцу аднаго з самых загадкавых народаў Еўропы — баскаў.

Вынікі даследавання, апублікаваныя ў часопісе PNAS.

Баскі адрозніваюцца ізаляванай мовай і ўнікальнымі звычаямі, якіх не знойдзеш у іншых еўрапейскіх народаў. Мова баскаў (баскі называюць яе Euskara), як сцвярджаюць спецыялісты, не мае роднасных у свеце.



Свята баскаў «Дзень гусі»: паводле старажытнага звычаю, у падвешанай над вадой гусі трэба адарваць галаву разам з шыяй.

REUTERS

### Геном баскаў

Баскам таксама ўласцівыя генетычныя асаблівасці, адрозныя ад іх суседзяў у Францыі і Іспаніі.

Вучоны шведскага ўніверсітэта Упсала Маціяс Якабсан даследаваў геном знойдзеных на поўначы Іспаніі васьмі чалавечых шкілетаў, якія паходзяць з каменнага веку.

Гэтыя людзі жылі 3,5—5,5 тысяч гадоў таму, пасля таго, як на паўднёвым захадзе Еўропы адбыўся пераход да ранняга земляробства. Даследаванне паказала, што іберыйскія земляробы з'яўляюцца продкамі цяперашніх баскаў.

### Міграцыя на захад

Земляробства было прынесена ў паўночную і цэнтральную Еўропу тымі ж групамі мігрантаў, якія прыйшлі з Блізкага Усходу на еўрапейскі кантынент каля сямі тысяч гадоў таму, калі наступіў перыяд неаліту.

Калі земляробы аселі на гэтых землях, яны змяшаліся з мясцовымі паляўнічымі-збіральнікамі, нашчадкамі тых, хто жыў у Еўропе яшчэ з часоў апошняга ледавіковага перыяду.

Геном знойдзеных на поўначы Іспаніі шкілетаў паказвае, што гэтыя людзі былі больш блізкімі сваякамі старажытных паляўнічых, чым старажытныя земляробы, якія жылі на некалькі тысяч гадоў раней на тэрыторыі цяперашніх Германіі, Венгрыі і Іспаніі.

Гэтае даследаванне тлумачыць некаторыя адрозненні паміж баскамі і іх суседзямі.

Продкі баскаў — пасля першапачатковага змешвання старажытных земляробаў і паляўнічых — апынуліся ізаляванымі, магчыма, па геаграфічных і культурных прычынах.

«З гістарычных хронік ясна, што гэты рэгіён было вельмі цяжка заваяваць», — распавёў прафесар Якабсан.

Рэгіён пражывання баскаў заставаўся практычна не кранутым наступнымі працэсамі міграцыі, якія вызначылі генетычную карціну ў Еўропе.

### Ізаляцыя і міграцыя

Міграцыйныя працэсы, у прыватнасці, былі адзначаны ў бронзавым веку, калі ў заходнюю частку Еўропы ў масавым парадку перамяшчаліся жывёлаводы з усходняй перыферыі кантынента.

Гэтыя плыні, магчыма, прывялі да распаўсюджвання тут індаеўрапейскіх моў, закрануўшы паўночныя і цэнтральныя рэгіёны Еўропы больш, чым паўднёвыя.

Аднак гэтыя міграцыйныя плыні ніяк не закранулі геном баскаў.

Наступная хваля міграцыі, якая яшчэ больш адасобіла баскаў ад іх суседзяў, пачалася ў 711 годзе, калі войскі мусульман уварваліся з Паўночнай Афрыкі на Пірэнейскі паўвостраў, што завяршылася заваяваннем мусульманамі Іспаніі, валадарства якіх доўжылася больш за 700 гадоў.

І зноў, нягледзячы на тое, што геном іспанцаў сведчыць аб іх некаторым сваяцтве з жыхарамі Паўночнай Афрыкі і тэрыторый на поўдзень ад Сахары, у баскаў гэтая роднасная лінія практычна адсутнічае.

Доля генаў старажытных еўрапейскіх паляўнічых-збіральнікаў, якую маюць і баскі, розная ў розных народаў Еўропы. Вышэйшая за астатніх яна яшчэ ў эстонцаў і літоўцаў (каля 30%), але «чыстакроўных» нашчадкаў спрадвечных еўрапейцаў у Еўропе ўжо даўно не засталося.

Мяркуючы па ўсім, яны былі асіміляваныя мігрантамі эпохі неаліту, якія былі, магчыма, больш шматлікімі за «карэнных» еўрапейцаў.

**Бі-Бі-Сі**

**Меркаванне**

# Злы добрага не разумее

Цікава з гэтым **наплывам мігрантаў** у Еўропу.



Не ведаюць мігранты, куды ім бегчы. Дурні, шчэмяцца ў гэтую «пыльную Еўропу» замест таго, каб размясціцца ў квітнеючых аграгарадках краіны, падобнай да Швейцарыі. І ў Расію, «шчодрую душу», не просяцца.

Здавалася б, не просяцца — і радуйцеся.

Але ж колькі ўсяго гавораць і пішуць пра тых мігрантаў. «Гэта канец Еўропы», «Еўропа здурэла», «у Еўропе крызіс», «у Еўропе хаос». Ага, крызіс і хаос. Але пачынаеш укантакце і ў фэйсбуку — аказваецца, дочкі тых самых нашых пісак і балабонаў там вучацца, у той загнілай Еўропе.

Чаму пісакі пішуць, ясна — каб стварыць уражанне, што ў Еўропе ўсё пагана, што там горш, чым у нас. Гэта там «развал маралі». Гэта там «ніхто аб простым народзе не думае», гэта там «у людзей ніхто не пытаецца».

Але сапраўды, чаму Еўропа прымае тых сірыйцаў? Чаму не «паставіць кулямёты на мяжы», як рэкамендуюць нашы «аналітыкі»?

Я пагаварыў пра мігрантаў з адной францужанкай, у жылах якой цячэ і беларуская кроў, яе дзед у свой час волею лёсу знайшоў прытулак у Францыі.

Па-першае, сказала яна, наш вопыт з імігрантамі зусім іншы, чым у вас. Глядзіце, колькі Францыя выйграла ад таго, што прымала імігрантаў: Шагал, Зінэдзін Зідан. Гэта людзі, якія стварылі для Францыі каласальнае багацце, якія яе праславілі. Наш вопыт вучыць, што людзі з іншых краін прывозяць з сабой свой капітал, перадусім інтэлектуальны капітал.

Па-другое, кажа яна, вы глядзіце на сітуацыю са сваёй званіцы. Вы пастаўлены на мяжу інтэлектуальнай анігіляцыі, у вас па-беларуску не гаворыць ні адзін міністр, ні адзін генерал. А мы, кажа яна, не баімся. Мы — і не толькі мы, французы, але і датчане, шведы, усе малыя і вялікія нацыі Еўропы, — настолькі прывязаныя да сваёй мовы і культуры, настолькі шануем сваё, што мы ведаем: праз адно-два ці максімум тры пакаленні і тыя мігранты загавораць на нашай мове і пярэймуць нашы традыцыі.

Па-трэцяе, нашы краіны самі ў свой час, у 1970-я, прынялі рашэнне адкрыць кранікі іміграцыі, бо была патрэбная працоўная сіла. Новыя імігранты, хоць ёсць і выключэнні, але гэта таксама працоўныя рукі. Захочуць жыць — будуць рабіць.

Па-чацвёртае, хваля міграцыі для нас не першая. Было шмат бежанцаў у час Другой сусветнай. Пасля былі хвалі іміграцыі з Алжыра, калі ён дасягнуў незалежнасці. З В'етнама, калі там перамаглі камуністы. З СССР пасля перабудовы. З Босніі, калі там ішла вайна ў 1990-я. Мы з вопыту ведаем, што, урэшце, усё стабілізуецца. Хтосьці з іх вернецца дахаты, калі там скончыцца канфлікт. Хтосьці асядзе ў нас. Для нас іміграцыя — гэта пытанне «як і колькі іх прымаць», а не пытанне, «прымаць ці не прымаць» увогуле.

Па-пятае, кажа яна, я ўжо 30 гадоў чую пра «засілле чорных», пра тое, што «ісламскае мора заліе Еўропу». Але яшчэ няма ні адной краіны Еўропы, дзе б мусульмане ўтварылі палітычную партыю, якая б адолела ўмоўны пяціпрацэнтавы бар’ер. Так, у асобных краінах — Францыі, Германіі — праблема «імігранцкіх кварталаў», «чорных гета» існуе, але яна адвеку існуе і ў ЗША. Тым не менш асноўная маса прыбышоў такі ўрастае ў еўрапейскае грамадства і прымае еўрапейскі лад жыцця.

Па-шостае, мы кіруемся правам, і гэта святое. У Сірыі вайна, а ў Эрытрэі — дыктатура, не раўня вашай, беларускай. Мы можам дэпартаваць цыгана назад у Румынію. Але куды дэпартаваць сірыйца? Там вайна, мы не можам выгнаць чалавека пад кулі.

Па-сёмае, ёсць фундаментальнае! Гэта спагада, гуманізм. Калі чалавек просіць ратунку, трэба яго накарміць і напаіць, а тады ўжо разбірацца. Таму папа Францішак і папрасіў каталікоў прыняць сем'і ўцекачоў. Таму і Валенса заступіўся.

«Карацей, не перажывайце вы так за нас, перажывайце за сябе», — даволі рэзка сказала яна.

І, вы ведаеце, я з ёй згодны.

**Андрэй Дынько**

# У Расіі злавілі за стырном 14-гадовага Ясона — сына дырэктара беларускай нафтавай кампаніі





У Стаўрапольскім краі Расіі праваахоўнікі спынілі таніраваны аўтамабіль «Мерседэс Е-200», за стырном якога быў 14-гадовы Ясон Алмазаў, сын генеральнага дырэктара мазырскай кампаніі «Захад-Транснафтапрадукт» Віталя Алмазава. Увагу прыцягнула таніраваная іншамарка з маскоўскімі «блатнымі» нумарамі 001.

Брат затрыманага прапанаваў праваахоўнікам «вырашыць пытанне палюбоўна». «Ён жа не відавочна парушае», — патлумачыў ён. Пасля прыехала «група падтрымкі», якая складаецца з адвакатаў і асабістай аховы сям'і Алмазава, якія ўжылі фізічную сілу супраць супрацоўнікаў расійскай ДАІ.

У адносінах да аднаго з іх, які выкручваў рукі праваахоўнікам, заведзеная крымінальная справа. «Захад-Транснафтапрадукт» — гэта беларуская дачка расійскай дзяржаўнай «Транснефті».

ЯМ



## «Папялушка з Таджыкістана» здзівіла свет сваёй прыгажосцю

Некалькі апошніх тыдняў палова свету абмяркоўвае надзвычайную прыгажосць жыхаркі Душанбэ, 19-гадовай Муніры Мірзоевай. Дзяўчына займаецца азяляненнем таджыкскай сталіцы. Сусветную славу ёй прынеслі здымкі, зробленыя румынскім фатографам Міхаэлам Норак.

Спадарыня Норак падарожнічае па ўсім свеце, здымаючы людзей для праекта «Атлас прыгажосці». Яе мэта — раскрыць жаночую прыгажосць з любога кутка свету. Не так даўно яна пабывала ў Душанбэ.

Як даведаліся журналісты і блогеры, Муніра з'яўляецца адзінай карміліцай у сям'і з сямі чалавек. Пасля школы яна марыла паступіць ва ўніверсітэт на медыка, аднак у сям'і не знайшлося на гэта грошай. Тым не менш панянка кажа, што ганарыцца сваёй працай, бо сумленна зарабляе грошы.

У сярэднім яе заробак у месяц складае 110 долараў. Часам бываюць выплаты прэміяльных.

«Калі б мае бацькі дазволілі, то я б хацела ўзяць удзел у конкурсе прыгажосці за мяжой, але яны не дазволяць ніколі. Мае бацькі баяцца адпусціць мяне нават у караценькую паездку. Я праводжу ўвесь вольны час з рыдлёўкай і граблямі. Мае найлепшыя сябры — калегі-садоўнікі», — сказала Муніра ў інтэрв'ю.

У фэйсбуку ўжо пачаўся збор сродкаў на тое, каб «таджыкская папялушка» змагла атрымаць вышэйшую адукацыю. На дадзены момант ужо сабрана 1650 долараў, але арганізатары спадзяюцца давесці гэтую суму да 10 тысяч.

Зміцер Панкавец

# У Каралеўстве Свазіленд загінула 65 дзяўчат, якіх везлі на «Танец трыснягу»

ДТЗ з удзелам двух грузавікоў і легкавога аўтамабіля адбылося ў Каралеўстве Свазіленд позна ўвечары 28 жніўня. Грузавікі перавозілі дзяўчат, якія павінны былі ўдзельнічаць у нацыянальным фестывалі умхланга, або «Танец трыснягу», які штогод адбываецца ля каралеўскай рэзідэнцыі.

«Танец трыснягу» — масавае свята ў Свазілендзе, кульмінацыяй якога з'яўляецца танец некалькіх тысяч дзяўчат, якія жадаюць стаць жонкай караля.

Кароль Мсваці III, які цяпер ужо мае 13 жонак, аднавіў традыцыю правядзення свята на дзяржаўным узроўні ў 2001 годзе, каб заахвоціць дзяўчат да цноты і для барацьбы з эпідэміяй СНІДу. Акрамя таго, была ўведзеная афіцыйная забарона на сэксуальныя адносіны для дзяўчат, маладзейшых за 21 год. Пасля свята Мсваці арганізуе раздачу ялавічыны ўсім удзельніцам умхлангі.



АГ

## Сталі вядомыя супернікі БАТЭ і «Дынама» ў еўракубках

Другі год запар аж дзве беларускія каманды згуляюць на групавым этапе еўракубкаў. Барысаўскі БАТЭ будзе прадстаўляць краіну ў Лізе чэмпіёнаў, а мінскае «Дынама» — у Лізе Еўропы.

Распачне БАТЭ групавы турнір матчам у гасцях з нямецкім «Баерам» 16 верасня. 29 верасня БАТЭ згуляе ў Барысаве з «Ромай» (Італія).

Затым — два матчы з іспанскай «Барселонай»: 20 кастрычніка ў Барысаве і 4 лістапада ў сталіцы Каталоніі. У Беларусь зноў прыедзе славуты Ліянэль Месі.

24 лістапада БАТЭ прыме «Баер», а завершыць групавы турнір матчам з «Ромай» у Італіі 9 снежня.

Мінскае «Дынама» 17 верасня будзе сустракацца ў гасцях з «Вікторыяй» з чэшскага Плзеня. 1 кастрычніка ў Барысаў, там будзе гуляць «Дынама», прыедзе аўстрыйскі «Рапід».

22 кастрычніка і 5 лістапада чакаюцца спараныя матчы з іспанскім «Вільярэалам». Спачатку ў гасцях, пасля — дома.

26 лістапада «Дынама» прыме «Вікторыю». А скончаць турнір мінчукі гульнёй з «Рапідам» 10 снежня.

ЗП

# Насупраць Burger King у Мінску адкрыецца KFC

Магчыма, ужо ў верасні.

Каля выхаду са станцыі метро «Каменная Горка» ў верасні адкрыецца фастфуд KFC — раўнютка насупраць адкрытага летам Burger King.




Па планы KFC па прыходзе ў Беларусь у гэтым годзе стала вядома яшчэ ў 2013-м. Раней меркавалася, што першы рэстаран KFC адкрыецца ў бары кінатэатра «Цэнтральны». Магчыма, кампанія не адмовіцца ад «Цэнтральнага», а пазней адкрые там другі рэстаран сеткі.

Адкрыццё KFC можа стаць для сталіцы значнай падзеяй: калі адкрываўся *Burger King*, даўжэзныя чэргі не зніклі яшчэ месяц (нярэдка бываюць і цяпер).

KFC пераклада́ецца як «смажанае куранё з Кентукі». Гэта папулярная сетка амерыканскага фаст-фуду, якая спецыялізуецца на стравах з курацыны.

Аляксандр Арсёнаў

Кіно

## Як выгадаваць найлепшага кілера




Хітмен: Агент 47
**Рэжысёр:** Аляксандр Бах
**Жанр:** баявік, трылер, прыгоды
**У ролях:** Руперт Фрэнд, Ханна Уэр, Закары Куінто, Кіран Хайндс, Рольф Каніс, Анджэла Бэйбі, Дэн Бакендаль, Шарлін Бек, Міхаэль Борнхюэтэр
Германія, ЗША
**Адзнака:** 6

Падчас халоднай вайны ў нетрах таемнай лабараторыі ў СССР доктар Літвенка праводзіць вопыты па біяінжынерыі. Іх мэта — стварэнне ідэальнага наёмнага забойцы, які валодае здольнасцямі, што нашмат пераўзыходзяць звычайныя чалавечыя. Разумеючы, што стварыў бяздушных забойцаў, доктар збягае з СССР, згубіўшы жонку і схаваўшы маленькую дачку, а лабараторыя зачыняецца. Праходзіць шмат гадоў, і самы ўдалы экзэмпляр, агент 47, становіцца найлепшым кілерам у свеце, а дачка Каця, якая вырасла ў маладую жанчыну з паранояй і абвостранымі адчуваннямі, шукае адказы на пытанні аб сваім мінулым. У гэты час Сіндыкат шукае саму Кацю, каб тая вывела іх на бацьку, якому вядомы сакрэт «вырабу» агентаў, а ўрад з дапамогай Хітмена высочвае ўсё сямейства Літвенкаў, каб не дапусціць рэалізацыі планаў Сіндыката.

У аснове стужкі ляжыць серыя відэагульняў *Hitman* дацкай кампаніі *IO Interactive*. Гэта другая спроба экранізаваць гульню: першая адбылася ў 2007 і аказалася правальнай. Польскі рэжысёр Аляксандр Бах выбраў для свайго дэбюту сюжэт, які захапіў мноства аматараў відэагульняў. Аднак адаптаваць сцэнар гульні да кінафармату даволі цяжка: сюжэт там ёсць звязкай паміж місіямі і носіць другарадны характар. Таму для стужкі ён быў пашыраны, уведзеныя новыя героі і сюжэтныя павароты. Праз гэта фанатамі гульні фільм быў прыняты адмоўна.

Для неабазнанага гледача стужка выглядае сярэднім баевічком. Стваральнікі паставілі некалькі відовішчных баявых сцэн, паспрабавалі надаць героям глыбіні. Часткова гэта ўдалося, але часам сюжэтныя хады і дыялогі выглядаюць шаблоннымі. Тым не менш сюжэт атрымаўся складаным і шматслойным, а Хітмен — харызматычным і вельмі падобным да прататыпа.

Настасся Уласава

# І выбару няма, і выбараў няма

Паважаныя, дарагія мае людзі, вы зрабілі вялікую палітычную памылку ў №28, ды яшчэ на 1-й старонцы свайго выдання. Яна ў першым загалоўку: «Выбары ёсць, а выбару няма».

Яшчэ з мінулых выбараў людзі Беларусі зразумелі, што няма ніякіх выбараў на выбарах. Ці ёсць магчымасць праверыць вынікі падліку галасоў? І гэта называецца: «няма выбараў».

Служкі рэжыму аж млеюць, займаючы на «датэрміноўку» людзей. Таму трэба пісаць: няма выбару і няма выбараў.

А няма выбару таму, што гэтыя людзі, якія балатуюцца ў прэзідэнты, не разумеюць самой тэхналогіі падману на выбарах (або разумеюць і свядома падыгрываюць ёй?!).

Цягнуць палітычна недасведчаны народ на «выбары», разумеючы, што самыя не пройдуць і юрыдычна замацуюць выбарчы спектакль, надаўшы гэтым самым галоўнаму артысту легітымнасць.

Сталыя людзі кажуць, што сапраўдныя выбары павінны праходзіць толькі ў адзін дзень.

У кожнай вобласці ёсць годныя ў кандыдаты людзі, а не тое, што нам падсоўваюць, — нейкую зашмальцаваную калоду старых артыстаў з цэнтра, ды яшчэ разбаўленую сумнеўнай фігурай.

А сённяшнія кандыдаты павінны сысці як старая мадэль падтрымкі дзейнага рэжыму.

Патрэбная краіне дэмакратыя. Інакш — тупік, інакш — другая Украіна.

**З павагай, настаўнік Мікола з Віцебска**

# «Дзе сустракаецца Русь з Літвою…»

Сваімі назіраннямі і меркаваннямі пра славянскае паходжанне беларусаў піша наш сталы чытач **Аляксей Бруй**.

Якой бы прывабнай ні была ідэя, што беларусы — гэта славянізаваныя балты, але яна не з'яўляецца праўдай. Калі адкінуць усе байкі і фантазіі, то гэтая тэорыя трымаецца на двух сапраўды неаспрэчных фактах:

1) да прыходу славян на поўнач ад Прыпяці пражывалі балты (пра што сведчаць дадзеныя археалогіі і гідранімікі);

2) у паўночна-заходніх дыялектах беларускай мовы налічвалася больш за 200 балтызмаў.

Але калі разгледзець уважліва, то гэтыя факты не з'яўляюцца доказам таго, што сучасныя беларусы — балты па паходжанні. Амаль усе сучасныя народы жывуць на землях, якія раней насяляў які-небудзь іншы люд. На месцы чэхаў раней жылі кельты, але чэхі не нашчадкі кельтаў, на месцы японцаў — айны, але японцы не нашчадкі айнаў і г.д.

Землі сучаснай Беларусі з прычыны прыродных умоў былі заўсёды слаба заселены. У V ст. тэрыторыю на поўдзень ад Прыпяці займалі славяне, а ў VII—VIII стст. яны занялі тэрыторыю цэнтральнай і паўночнай Беларусі. Якім чынам гэта ім удалося? Спаленыя гарадзішчы балтаў якраз гэтага перыяду сведчаць, што, прасоўваючыся ўглыб балцкай тэрыторыі, славяне знішчалі сваіх нешматлікіх праціўнікаў. Безумоўна, нейкая частка балтаў засталася жыць на сваіх тэрыторыях (яны перадалі славянам свае назвы рэк і азёр), але іх працэнт адносна перасяленцаў-славян павінен быў быць мізэрны, калі яны асімілявaліся славянамі. Бо калі нават цяпер, пад магутным уздзеяннем СМІ, не вельмі лёгка адбываецца асіміляцыя нацыянальных меншасцяў, то як маглі асімілявацца народы ў Сярэднявеччы, пры панаванні натуральнай гаспадаркі і пры лясным характары тэрыторыі сучаснай Беларусі? Гэта славянізацыя магла адбыцца толькі пры наяўнасці маленькіх выспачак балтаў пасярод суцэльнай масы славянскага насельніцтва. А там, дзе балцкі арэал быў з некалькіх вёсак, ён мог захоўвацца стагоддзямі, нават атачаны шматлікімі славянскімі вёскамі, пра што сведчаць прыклады Дзевянішак і Рымдзюнаў. Дарэчы, нават адна балцкая вёска ў асяроддзі славян доўгі час, нават і даўно страціўшы ўласную гаворку, захоўвала выразны антаганізм з вяскамі суседніх вёсак.

Балтызмы ў беларускіх гаворках на паўночным захадзе Беларусі не сведчаць, што мясцовыя жыхары — балты. Гэта сведчыць пра ўзаемны ўплыў насельніцтва на працягу стагоддзяў сумеснага пражывання ў межах адной дзяржавы. Таму чым далей ад памежжа з Літвой, тым менш балтызмаў, а чым бліжэй, тым іх больш. Гэтаксама і ў дыялектах літоўскай мовы была вялікая колькасць беларусізмаў. Напрыклад, у паэзіі Данелайціса, які пісаў у XVIII ст. і жыў на значнай адлегласці ад Беларусі. (Потым, у XIX—XX ст., літоўскія дзеячы выкідвалі беларусізмы і паланізмы з літаратурнай літоўскай мовы, замяняючы іх наваствoранымі словамі.)

Генетычныя даследаванні паказваюць, што беларусы амаль чыстыя славяне. Выключэннем хіба можа быць раён каля Ліды і Воранава, дзе большы працэнт балцкага субстрату.

Даследчыкі яшчэ XIX ст. адзначалі антрапалагічную розніцу паміж беларусамі і ліцвякамі (літоўцамі). Я гэта магу пацвердзіць уласнымі назіраннямі. Віленшчына яшчэ з'яўляецца безумоўна беларускай. Кантраст даволі рэзкі паміж высокімі, светлавалосымі, з правільнымі рысамі твару ліцвякамі і ніжэйшымі і больш цёмнымі беларусамі (у т.л. з Віленшчыны). Гэта ж заўважна і ў менталітэце.

Цікава, што гэта заўважаў і Уладзіслаў Сыракомля. (Цытую паводле другога тома «Wycieczki po Litwie», 1860. У збор твораў на беларускай мове гэты тэкст не ўключалі.)

Дык вось, кіруючыся на паўночны захад ад Вільні, у бок Коўны (Каўнаса), прамінуўшы Дукшты, Сыракомля пераехаў этнічную мяжу паміж беларусамі (у арыгінале «Rusiny») і ліцвякамі (у арыгінале па-польску «Litwiny)» і зрабіў параўнаўчы аналіз гэтых народаў.

«Праз гэтую вёску (Айраны) праходзіць мяжа плямёнаў і мовы беларусаў і Літвы. Сціраецца, але яшчэ даволі выразная розніца не толькі ў мове, але і ў адзенні і звычаях…

Селянін-ліцвяк — высокі, з доўгай шыяй, бялявы або русы (ніколі чарнявы), вочы мае блакітныя, колер скуры — белы. Беларус мае сярэдні рост, шырокія плечы, шыю кароткую і тоўстую, вусы і бараду цёмна- або светла-жоўтыя, колер скуры — смуглы.

Знадворнасць і сярэдзіна хатаў аднаго і другога племені не здаецца розная між сабою, хіба толькі трохі большая ахайнасць у ліцвякоў… Адносна заможнасці ў абодвух плямёнаў — нястача.

Затое ў харчаванні і напоях абодва плямені знаходзяць відавочную традыцыйную розніцу; ліцвяк любіць харчаванне тлустае… Беларус ахвотна спажывае мучное, кашы, бліны… п'е хатні квас з жытняй мукі або лясных яблыкаў і занадта захапляецца няшчаснай гарэлкай, тады як ліцвяк аддае перавагу мёду, піву хатняга вырабу і захапляецца «крупнікам»…

Ліцвяк не любіць вучыць не сваю мову, а калі на ёй гаворыць, робіць гэта неахвотна.

Беларус больш здольны да рамёстваў, а ліцвяк лепшы землярoб і стралок.

Ліцвяк больш любіць жыццё хатняе, беларус — публічнае, мястэчковае, карчомнае, разгульнае.

Беларус больш шчодры, ліцвяк больш скупы і абачлівы на заўтра; беларус адкрыты, ліцвяк закрыты, беларус лягчэй успыхвае, але адразу ж забывае знявагу, ліцвяк лагодны, але помслівы, няскора выбачае. Адносна павагі да чужой уласнасці ліцвяк вышэй стаіць за беларуса.

Ліцвяк лічыць беларуса за менш маральнага, беларус высмейвае ліцвяка, бо лічыць яго менш цывілізаваным».

Абвінавачваць аўтара ў прадузятасці нельга: ён ведаў добра Беларусь і Літву, доўгі час жыў у Нясвіжы, працаваў ў архіве Радзівілаў. Вельмі любіў беларускую мову і напісаў на ёй некалькі вершаў, доўгі час пражыў на Віленшчыне, дзе пражывалі і беларусы, і ліцвякі.

**Аляксей Бруй, Гарадзея (Стаўбцоўскі раён)**

## Прыватныя абвесткі

**Створым беларускамоўную групу ў садку ў раёне Шырокая, Кальцова і Лагойскі тракт**
Запрашаем бацькоў і іх дзетак да стварэння беларускамоўнай групы дзіцячага садка на 2016—2017 у раёне скрыжавання вуліц Шырокая, Кальцова і Лагойскі тракт у Мінску. Тэл. (029) 638-92-03 Віталь Абаканові ч e-mail: abakanovich@gmail.com

**У Мінску навучыцца гульні ў шахматы можна і па-беларуску**
Адбываецца набор у шахматны клуб Мінскага палаца дзяцей і моладзі. У гэтым годзе мы радыя прэзентаваць навінку — групу з беларускай мовай навучання! Трэнер — Віктар Барскі. Заняткі пачынаюцца з другога тыдня верасня. Дадатковую інфармацыю можаце атрымаць па тэлефоне +375 447625958 Vel. Расклад: аўт — 17:00-18:30, сб — 14:30-16:00

**Створым TouchPal па-беларуску разам**
Прапануюразам стварыць пераклад на беларускую мову да адной з самых папулярных праграмных клавіятур у свеце TouchPal, якую можна ўсталяваць на прылады пад кіраваннем аперацыйных сістэм Android/iOS. Калі вы добра валодаеце роднай мовай, а яшчэ лепш — у вас ёсць лінгвістычная адукацыя, то я буду вельмі ўдзячны, калі вы зможаце дапамагчы з перакладам. Мае кантакты: Skype: bor.name, Email: callmebor@gmail.com,Viber: +37529 563 3090 Далучайцеся!

## Віншаванні

29 жніўня ў Фарным касцёле ў Гродне ўзялі шлюб **Арцём Ткачук і Марта Ткачук-Бекіш**. Віншуем гэтых светлых і адданых людзей. Дай Бог ім усялякага дабра і шчасця!
Ад Рэдакцыі. Арцём і Марта выканалі рэдкую высакародную справу — працавалі ў Афрыцы, вучачы дзяцей.



Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!



**Віншуем Марыяну Калініну і Арцёма Бабоўнікава** з вяселлем! Хай Бог будзе з вамі і хай сэрцы будуць у ласцы.

## Вершаваным радком



Валянціна Аксак

### Роспач

Плачу,
захлынаючыся ад роспачы —
святар адпявае бацьку
не той моваю,
якою ён жыў,
і я не магу перайначыць
словы чужынскія
над роднай магілай.

# Захацеў збудаваць дом задарма?

**Затрыманыя старшыні Рагачоўскага і Чашніцкага райвыканкамаў.**

Кіраўнікоў Рагачоўскага і Чашніцкага раённых выканкамаў падазраюць у карупцыі. Чыноўнікі затрыманыя. Іх дзеянні кваліфікаваныя як злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі.

Паводле незалежнага партала «Рагачоў анлайн», Сяргея Якаўлева, старшыню мясцовага райвыканкама, арыштавалі ва ўласным доме праз некалькі гадзін пасля святочнай лінейкі ў СШ №6, на якой ён прысутнічаў у якасці «ганаровага» госця.

Паведамляецца, што Якаўлеў, калі будаваў прыватнае жыллё, загадваў падначаленым яму арганізацыям перадаваць таварна-матэрыяльныя каштоўнасці па заніжанай цане, а таксама аказваць паслугі без поўнай аплаты.

Грамадскі актывіст, рэдактар партала «Рагачоў анлайн» Дзяніс Дашкевіч узгадаў, што першыя звесткі пра магчымы арышт Сяргея Якаўлева ў Рагачове з'явіліся яшчэ ў чэрвені ў сувязі са справай іншага падазраванага ў карупцыі чыноўніка, былога намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама Віктара Банчука.

«Банчук жа ад нас «пайшоў» у Гомель. У Рагачове ён два гады таму быў старшынёй райвыканкама, да прызначэння Якаўлева. Цяпер кажуць, што Банчук пачаў супрацоўнічаць са следствам, актыўна дае паказанні, у тым ліку і на былых калегаў. Яго прывозілі ў Рагачоў на следчыя дзеянні, вадзілі па горадзе, у тым ліку па цэнтры, дзе павінны былі зрабіць парк. Грошы на парк выдзелілі вялікія, але нічога не пабудавалі, толькі яму выкапалі, — кажа Дашкевіч. — Таму не выключана, што ў справе Якаўлева будуць і іншыя эпізоды, а не толькі дом, які ён будуе. Дарэчы, дом гэты не надта і вялікі, два паверхі, у мікраёне Задрушча. А жыў ён у ведамасным доме, дзе раней жыў Банчук — той дом добры, вялікі, за агароджай, з садам. Але вось вырашыў яшчэ і свой пабудаваць».

Мясцовы грамадскі актывіст Уладзімер Мельнікаў кажа, што адмоўных момантаў у працы Сяргея Якаўлева ў Рагачоўскім райвыканкаме хапала: «Пра яго да прызначэння ў Рагачоў казалі, што прынцыповы чалавек, патрабавальны, пунктуальны. А тут ужо сталі казаць, што нібыта хамаваты, мог і брыдкасловіць, і прынізіць. Расказваюць, што нейк на жанчыну казаў пры ўсіх, што «...паставіць». Не прысутнічаў пры гэтым, таму дакладна не ведаю, ці так было. Але ж гэта агульная тэндэнцыя. І вось аказалася, што і домік нейкі... Ну, як заўсёды».




**Следства сцвярджае, што Уладзімір Булай (злева) браў ад кіраўнікоў прадпрыемстваў грошы і падарункі.**



**Сяргей Якаўлеў адпрацаваў на сваёй пасадзе толькі два гады.**

Што тычыцца Уладзіміра Булая, старшыні Чашніцкага райвыканкама, то следства выявіла, што ад ліпеня 2011 года да мая 2015 года ён злоўжываў службовымі паўнамоцтвамі. Булай даваў указанні кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый Чашніцкага раёна, каб тыя аддавалі яму і членам яго сям'і грошы і іншыя каштоўнасці, а таксама аказвалі паслугі бясплатна.

У выніку кіраўнікі райвыканкамаў могуць быць пакараныя пазбаўленнем волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

**Улад Швядовіч**

## «Матчын рух» уступіцца за распаўсюднікаў спайсаў

**У Беларусі ствараецца грамадскае аб'яднанне «Матчын рух 328», удзельнікі якога — бацькі, чыіх дзяцей асудзілі да вялікіх тэрмінаў за распаўсюд наркотыкаў.**

«Шматлікія дзеці сядзяць па разнарадцы, дзеля выканання плана затрыманняў. Сапраўдныя ж наркабароны, якія вароцяць мільярдамі, дагэтуль на волі. Гэта несправядлівасць, на нашу думку», — расказала «Нашай Ніве» гродзенская актывістка Ларыса Жыхар. Яе сын трапіў за краты ў 18 год — яму далі 8 год па ч. 3 арт. 328.

«Рух задуманы як агульнабеларускі, але афіцыйна мы пакуль стварым гарадское грамадскае аб'яднанне ў Гродне, —працягнула жанчына. — Далей будзе відаць, бо нашы аднадумцы жывуць ва ўсіх гарадах краіны. Рэгістрацыя патрэбна для таго, каб нас больш не штурхала міліцыя і пракуратура: маўляў, мы ніхто. А так на нас звернуць увагу, і ўладам давядзецца прызнаць, што такая праблема існуе. Наша праграма-максімум — гэта перагляд спраў асуджаных дзяцей і ціск на органы з мэтай пошуку сапраўдных лялькаводаў наркатрафіку ў Беларусі. Мы ўжо збіраем подпісы пад адпаведнымі зваротамі па ўсёй краіне. Неўзабаве гэтыя звароты мы накіруем да дэпутатаў усіх узроўняў, у генпракуратуру і да Аляксандра Лукашэнкі».

Па словах актывісткі, калі звароты не дадуць плёну, то «Матчын рух 328» пойдзе ў апошнія інстанцыі: ААН і суд у Страсбургу.

«Мы будзем пісаць прэзідэнту ў надзеі, што ён усвядоміць: вельмі жорстка казаць на ўсю краіну, што падлеткі павінны сядзець і прасіць смерці [гаворка пра Дэкрэт №6]. Між тым многія з іх упершыню патрапілі за краты, а некаторыя нават упершыню трымалі ў руках наркотыкі. А іх садзяць на 15 гадоў! Некаторых дзяцей проста выкарысталі», — сказала таксама Ларыса.

Новае заканадаўства ўзмацніла пакаранні за распаўсюд наркотыкаў. Яго прыняцце дыктавалася неабходнасцю спыніць распаўсюд спайсаў, якія літаральна касілі моладзь.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Глядзець можна, лайкаць — не

**Следчы камітэт патлумачыў, чаго нельга рабіць, каб не трапіць за распаўсюд парнаграфіі ў сацсетках.**

Часам карыстальнікі інтэрнэту нават не падазраюць, што ад крымінальнай справы за распаўсюд порна іх аддзяляе ўсяго толькі адзін клік мышкай. Напрыклад, «лайк» ці рэпост у сацсетках падобных матэрыялаў, можа прыцягнуць увагу міліцыі, бо прыраўніваецца да распаўсюду. Гэта ж тычыцца і размяшчэння фота ці відэа для дарослых на сваёй старонцы ў сацсетках. «Карыстальнік спрыяе яго распаўсюджванню, бо відэа знаходзіцца ў свабодным доступе і яго змогуць убачыць усе асобы, што наведваюць яго старонку», — тлумачыць Следчы камітэт.

Таксама нельга перадаваць такія матэрыялы праз *Viber*, *Skype* ці любыя іншыя месенджары, гэта ж тычыцца і перадачы з прылады на прыладу праз *wi-fi* ці *Bluetooth*. Калі паказаць відэа камусьці, гэта таксама лічыцца распаўсюдам, а значыць — злачынствам. Нават прыватныя паведамленні ў сацсетках ці лісты на электронную пошту не павінны змяшчаць парнаграфічнага кантэнту.

Акрамя таго, нядаўна ў СМІ фігуравала інфармацыя аб тым, што ў дачыненні да маладой дзяўчыны з Гомеля УСК па Гомельскай вобласці была распачата крымінальная справа за нібыта бязвінны каментарый, пакінуты пасля прагляду парнаграфіі ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» пад відэазапісам. Гэты каментарый быў пакінуты ёю пасля таго, як яна дадала відэа сабе на старонку.

«А сістэма сацыяльных сетак выбудавана такім чынам, што пэўныя вашы дзеянні, у тым ліку дададзеная відэа, лайкі, каментары, змогуць убачыць у вашай стужцы навін вашы сябры і падпісанты», — канстатуюць у СК.

Увогуле, з 2013 года ў краіне назіраецца рост колькасці злачынстваў у сферы распаўсюджвання парнаграфіі. Так, у 2013 годзе было распачата 278 крымінальных спраў, у 2014-м — 397, а за восем месяцаў 2015 года ўжо 404 крымінальныя справы.

**УШ**

## Акцёр Павел Харланчук трапіў у ДТЗ

ДАІ высвятляе падрабязнасці аўтааварыі, якая адбылася ўвечары 29 жніўня на ўнутраным кальцы Мінскай кальцавой аўтадарогі. На *onliner.by* з'явілася інфармацыя відавочцы пра тое, што машына «Аўдзі» нібыта ехала па паласе разгону, калі ў яе стукнулася «Хонда» на хуткасці каля 100 км/г. Потым абедзве машыны ўрэзаліся ў адбойнік.



За стырном «Хонды», як высветлілася, быў вядомы акцёр Павел Харланчук. Паведамлялася, што артыст быў стомлены пасля здымак і мог заснуць за рулём.

Павел Харланчук сам удакладніў абставіны ДТЗ. Аварыя адбылася не на паласе разгону, а на першай паласе. Менавіта на яе з паласы разгону выехала «Аўдзі».

«Не заўважыў машыну, якая выязджала. Гэта было вельмі раптоўна, — напісаў акцёр. І удакладніў: — У мяне ў той дзень не было здымак. Сказаць пра сябе гэтага я не мог. І я не заснуў».

«Акурат на той частцы дарогі не гарэлі ліхтары. Але вінаваты», — прызнаў Харланчук.

Хуткасны рэжым, па словах Харланчука, абодва ўдзельнікі ДТЗ не парушалі.

**ЗБ**

## Сцісла

### У лесе пад Барысавам знайшлі труп немаўляці

Следства ўжо адшукала жанчыну, якая нядаўна нараджала, але ў яе няма дзіцяці. Мяркуюць, што гэта маці загінулага малога. 29-гадовую жыхарку Маладзечанскага раёна шукалі з 4 верасня — яна накіроўвалася да сяброўкі ў Барысаў, а потым перастала выходзіць на сувязь. Цяпер жанчына ў бальніцы, ёй аказваюць неабходную медыцынскую дапамогу.

### У Гомелі загінуў рабочы

Будынак, дэмантажам якога займаліся сямёра рабочых, нечакана абрынуўся. Адзін мужчына загінуў, яшчэ адзін трапіў у бальніцу з траўмай нагі. Дэталі і абставіны здарэння высвятляе Следчы камітэт.

### У Лоеўскім раёне бык ледзь не забіў пастуха

49-гадовы мужчына паспеў паведаміць па мабільным тэлефоне знаёмай, што на яго раптам напаў бык і падкінуў два разы на рагах. Жанчына выклікала хуткую дапамогу. Пастуха прааперавалі. Цяпер ён знаходзіцца ў рэанімацыі ў цяжкім стане, падлучаны да апарата штучнай вентыляцыі лёгкіх.

### У Мінску жанчына забіла нажом свайго брата

4-пакаёвая кватэра, дзе жылі брат і сястра, мела рэпутацыю прытона. Перыядычна паміж сваякамі, якія любілі выпіць, узнікалі канфлікты. Але на гэты раз не абышлося словамі — 39-гадовая жанчына схапіла нож і нанесла свайму брату некалькі удараў у грудзі. Пляменнік і знаёмыя, якія знаходзіліся ў гэты момант у кватэры, выклікалі хуткую. Мужчыну выратаваць не ўдалося, яго сястра знікла з месца злачынства. Жанчыну затрымалі менш чым праз 24 гадзіны. Яна была ў знаёмых. Высветлілася, што падазраваная раней была судзімая за крадзяжы і незаконныя дзеянні з наркотыкамі. Зараз ёй пагражае да 15 гадоў турмы.

### На трасе М1 фура збіла мужчыну

Ад атрыманых траўмаў ён сканаў на месцы. Высветлілася, што вялікая кампанія адзначала на прыродзе куплю новай машыны. Бліжэй да 21.00 мужчыны селі ў аўтамабіль і паехалі дадому. Па дарозе паміж кіроўцам і таварышам паўстаў канфлікт — і пасажыра высадзілі на траса, паведамілі ў ДАІ. Каля 21.45 фура, якая ехала па трасе, збіла гэтага мужчыну: ён без флікераў ішоў па сярэдзіне праезнай часткі.

**УШ**

# Свае чужыя дзеці: прыёмныя бацькі супраць чыноўнікаў

Пасля расфарміравання дзіцячага дома сямейнага тыпу былая прыёмная маці Наталля Янушкевіч пайшла ў суд.

### З нянечкі — у прыёмныя бацькі

Наталля займаецца дзецьмі ўсё жыццё. Пачынала нянечкай у Доме дзіцяці, затым працавала там жа выхавацелькай.

«Да тых дзяцей немагчыма было ставіцца абыякава. Я нават брала некаторых да сябе дамоў на выхадныя — у тыя часы гэта дазвалялася, — кажа Наталля. — І неўзабаве вельмі прывязалася да адной дзяўчынкі».

У 1995 годзе Янушкевіч вырашыла аформіць апеку над 5-гадовай Юляй. З гэтага ўсё і пачалося.

«Юлі паставілі дыягназ «разумовая адсталасць». На той час гэта быў прысуд. Але атрымалася зладзіць добрае абследаванне, і высветлілася, што галоўныя праблемы былі з фізічным здароўем — гідранефроз, то бок арганізм не спраўляўся з вадкасцю, з-за гэтага павышаўся ўнутрычарапны ціск. Гэта ўплывала на мозг — чалавек у такім стане адчувае сябе як «у тумане», — тлумачыць Наталля. — У выніку мы пачалі сачыць за харчаваннем, рэжымам дня, не перагружаць ныркі. І калі ціск знізіўся, дзяўчынка пачала развівацца. Не так хутка, як іншыя дзеці, але яна скончыла школу, вучэльню. Дыягназ «разумовая адсталасць» знялі. Цяпер жыве сама, як звычайны дарослы чалавек».

Затым Наталля выйшла замуж. Жылі спачатку ўтраіх: яна, муж і Юля. Наталля адвучылася на дэфектолага, сышла працаваць у дзіцячы садок. У 1998 нарадзіла сваё дзіця. У хлопчыка таксама знайшлі праблемы са здароўем, потым яму нават афармілі інваліднасць. У 2001 годзе Наталля афарміла прыёмную сям'ю, афіцыйна стала «маці-выхавальніцай». Муж быў дальнабойшчыкам, зарабляў някепска. Грошай хапала і на сябе, і на дзяцей. Нават на мора ездзілі ўсе разам.

Як кажа Янушкевіч, асабліва ўвагу яна заўсёды звяртала на дзяцей з праблемамі, бо ў іх зусім мала шанцаў, што яны камусьці спатрэбяцца. Усе яе выхаванцы былі з асаблівасцямі: ДЦП, фізічная ці разумовая адсталасць і гэтак далей. Наталлю не палохалі нават самыя безнадзейныя выпадкі, бо яна разумела, што, калі не ўзяць хворае дзіця, яно так і застанецца ў дзіцячым доме, недалечанае і недагледжанае.

### З прыёмных бацькоў — у дзіцячы дом

У 2010 годзе Наталлі прапанавалі аформіць ДДСТ (дзіцячы дом сямейнага тыпу). На той момант у яе было двое прыёмных дзяцей і двое сваіх, і ёй прапанавалі ўзяць яшчэ дзяўчынку. Але ў прыёмнай сям'і нельга было мець больш за 4 дзяцей. Янушкевіч абмеркавала пытанне з мужам. Ён пагадзіўся.



**Наталля з некаторымі з дзяцей. У калысцы — той самы Гоша, якога праз год не дадуць усынавіць.**

«Паабяцалі, што больш за 5 прыёмных у мяне не будзе. А гэта было важна, бо я цвяроза ацэньваю свае сілы. З большай колькасцю справіцца было б вельмі цяжка. А гэта ж дзеці, за імі трэба глядзець, кожны патрабуе ўвагі», — падкрэслівае Наталля.

Янушкевічы атрымалі блок — дзве кватэры, тры і чатыры пакоі на двух дарослых і сямёра дзяцей. І неўзабаве высветлілася, што Наталля цяжарная. Спачатку яна думала нават адмовіцца ад пераезду, але, кажа, замяніць іх не было кім, а кідаць дзяцей не хацелася. Таму ДДСТ Наталлі Янушкевіч усё ж пачаў працу.

### Сям'я ці дзіцячы дом?

Але паціху пачалі ўзнікаць нюансы. Па словах Наталлі, на меркаванне прыёмных бацькоў звяртаць увагу проста перасталі: не давалі поўную інфармацыю пра дзяцей, не хацелі, каб бацькі самі выбіралі, якое дзіця ўзяць. Проста ставілі перад фактам — гэтае дзіцё будзе жыць у вас. Хочаце не хочаце — нікому нецікава, вы на працы.

«Спачатку, калі мне гэта ўсё толькі прапаноўвалася, важна было, што дзіцячы дом сямейнага тыпу — гэта ў першую чаргу сям'я. А потым стала падавацца так, нібыта гэта нейкае памяшканне, куды дзеці «паступаюць», а бацькі ходзяць як на працу, — абураецца Янушкевіч. — Да таго ж у 2012 годзе мы праводзілі праект, каб дзяцей з асаблівасцямі бралі ў прыёмныя сем'і. Пра нас пісалі ў СМІ, нават у «Савецкай Беларусіі» быў артыкул. Але неўзабаве пачало мяняцца кіраўніцтва — і праз год атрымалася, што нікому той праект стаў не патрэбны».

Неўзабаве Наталля нарадзіла. Атрымалася, што ў сям'і было 9 дзяцей — трое сваіх і шасцёра прыёмных.

«Але нам паведамілі, што ў нас павінна быць не менш за «10 койка-месцаў». Пачалі вельмі настойліва прапаноўваць узяць яшчэ адно дзіця. Мы як маглі адмаўляліся. У выніку ў 2013 годзе нам фактычна паставілі ультыматум — бярыце. Прыйшлося пагадзіцца, — кажа Янушкевіч. — Але ж пытанне яшчэ — каго ўзяць. Нам прапаноўвалі падлетка, які ўжывае спайсы. Хлопчыка з разумовай адсталасцю. Дзяўчынку з энурэзам. Зразумейце, гэтыя дзеці не дрэнныя. Але як паўнавартасна можна іх дагледзець, калі ў цябе яшчэ дзявяцера? І амаль ва ўсіх свае праблемы? Мы ўзялі малога, якому было некалькі месяцаў. Але ж іншых таксама фактычна прымушалі — бярыце тое дзіця, якое даюць. Была гісторыя са знаёмай прыёмнай сям'ёй: ім далі хлопчыка, які меў праблемы са спайсамі. Праз пэўны час ужо некалькі дзяцей з той сям'і ўжывалі наркотыкі. А абвінавацілі ў гэтым прыёмных бацькоў: маўляў, не спраўляюцца».

Плюс дзецям, якія траплялі ў дзіцячыя дамы сямейнага тыпу, не плацілі пенсіі. Заробак Наталлі быў не такі вялікі, а фактычна ўсе прыёмныя дзеці мелі асаблівасці псіхічнага ці фізічнага развіцця. На лекараў выдаткоўвалася шмат грошай. Грошай, якія далі на закуп мэблі, хапіла толькі на самае асноўнае, сцвярджае Наталля. Астатняе дакупалі за свае. За свае адрамантавалі санвузлы ў новых кватэрах.

### Ціск, праверкі і праблемы

Але ж апошняга хлопчыка, Гошу, Наталля з мужам вырашылі ўсё ж пакінуць у сябе. Пачалі займацца ўсынаўленнем. Спачатку афармілі апеку.

«Але ад нас пачалі патрабаваць, каб мы моўчкі выконвалі загады. Мы не хацелі, бо гэта ж дзеці, з імі проста не бывае. Пачаліся пастаянныя праверкі, — кажа Янушкевіч. — Я лічу, што праверкі ладзілі ў першую чаргу, каб было чым націснуць. Потым казалі: не хочаце працаваць на нашых умовах — мы знойдзем, як вас звольніць. Канкрэтна нам далі зразумець, што калі мы не будзем слухацца, то не дадуць усынавіць Гошу».

Прычым, прызнае Наталля, праблемы сапраўды часам з'яўляліся. Але, упэўненая яна, а як інакш, гэта ж сям'я.

«Так, у мяне былі праблемы ў адносінах з адной прыёмнай дзяўчынкай. Дзяўчынка дарослая, 14 гадоў. У яе быў дыягназ, які патрабуе рэжыму, дыет, самакантролю. А яна за вуглом нешта з'ела, прыйшла дадому — я выклікаю ёй хуткую. Плюс біялагічная маці пачала яе накручваць, што нібыта я бяру дзяцей з праблемамі, каб за іх грошы сабе «катэджы будаваць». Папаўзлі такія ж чуткі і па аддзеле адукацыі. І гэта пры тым, што да сакавіка 2015 дзеці-інваліды ў дзіцячых дамах сямейнага тыпу пенсій не атрымлівалі ўвогуле! Толькі дапамога, прыкладна па 100 даляраў на дзіця, — тлумачыць Янушкевіч. — З аднаго боку, у такіх умовах працаваць было немагчыма. Але я была патрэбная астатнім дзецям. Таму я прапанавала пасля заканчэння вучэбнага года двух дзяцей вярнуць у сем'і. А траіх я была гатова ўзяць пад апеку. Яшчэ аднаму хлопчыку якраз споўнілася 18 гадоў. І затым сама збіралася звальняцца».

Але ўвосень Наталлі працягнулі дамову не да мая, як яна планавала, а да канца студзеня. А ў студзені, калі скончыўся тэрмін дамовы, прыёмных дзяцей забралі (яны на той момант былі ў санаторыях). Звальненне Янушкевіч паспрабавала абскардзіць. Але паціху пачала пераезд з сацыяльнай кватэры ў сваю. Падчас пераезду, а ён цягнуўся доўга, Наталля разам з малымі — сваёй дачкой і прыёмным Гошам — жылі то ў сваёй кватэры, то ў сацыяльнай.

«Да нас хадзілі камісіі. Я паведаміла, што буду жыць тут, у сваёй кватэры, па новым адрасе. Камісія прыйшла яшчэ сюды, паглядзела. І спытала: а чаму мы вас не можам знайсці? Дык таму, што я пераязджаю! Але ж усё гэта падалі так, нібыта прыцяглы перыяд я ад іх хавалася, і мяне адхілілі ад апякунства за неналежнае выкананне сваіх абавязкаў», — сцвярджае Янушкевіч.

### Чыноўнікі ізноў перамаглі

10 красавіка маленькага Гошу забралі, а саму Наталлю пазбавілі статуса апекуна.

Янушкевіч падала ў суд на адміністрацыю Маскоўскага раёна Мінска, падала скаргу ў пракуратуру, звярталася да мэра сталіцы Андрэя Шорца. Праўда, гэта нічога не дало. Незаконнае, на думку Наталлі, звальненне пакінулі ў сіле. Малога таксама не аддалі. Апошні суд, які прайшоў на пачатку верасня, скончыўся не на карысць Янушкевіч. Сама Наталля ўпэўненая, што справа не ў парушэннях, якія прыпісваюць ёй па выніку праверак.

«Я заўсёды стварала праблемы для аддзела адукацыі. Не маўчала, агучвала ўсе свае пытанні. Але яны проста не хацелі іх вырашаць, казалі: «Гэта не ў нас з вамі праблемы, а ў вас!» Адказвалі так: «Не падабаецца? Звальняйцеся, знойдзем тых, хто будзе працаваць так, як мы скажам». І зараз яны звальнілі такіх. Людзі едуць з Бабруйска, напрыклад, атрымліваюць жыллё. І моўчкі сабе працуюць. Але ж я за кватэру не трымалася, сваё жыллё я маю», — кажа Наталля.

Прычым аб праблемах паміж прыёмнымі бацькамі і чыноўнікамі кажа не толькі Наталля Янушкевіч.

«Нашымі пытаннямі займаюцца чыноўнікі, якія не разумеюць нас. Начальнікам сектара аховы дзяцінства была дзяўчына, якая ўвогуле не мае сваіх дзяцей. Ну як яна можа зразумець, што мы хочам ёй сказаць?» — абураецца Аляксандр Садоўскі, былы выхавацель ДДСТ. Яго дзіцячы дом быў расфармаваны ў 2014 годзе, і таксама не без праблемаў.

«Дэкрэты пішуць чыноўнікі. Не пытаюць прыёмных бацькоў аб іх праблемах, не збіраюць нарады з нашым удзелам, каб паслухаць, што трэба зрабіць, а самі зверху спускаюць нам чарговую паперу — вось так трэба. Нас, людзей, якія знаходзяцца побач з дзецьмі 24 гадзіны, чыноўнікі проста не хочуць слухаць. Мы спрабавалі, але ўсё застаецца максімум на ўзроўні размоваў», — кажа Садоўскі.

**Улад Швядовіч**

# Алег Хаменка: **А Беларусь усё яшчэ разадраная паміж Рымскай Імперыяй і Залатой Ардой**

Лідар легендарнага гурту «Палац» распавёў, чаму без падтрымкі нацыянальнай культуры дзяржава доўга не праіснуе.

**«Наша Ніва»: Спадар Алег, Вы і музыка, і выкладчык, і вядучы, і шмат хто яшчэ… А як Вы самі сабе характарызуеце?**

**Алег Хаменка:** Я?.. Я культуртрэгер. Беларускі культуртрэгер. Жартую, канечне, але на тое падобна.

**«НН»: А якія з Вашых шматлікіх заняткаў асноўныя на сённяшні дзень?**

**АХ:** Музыка і прадзюсаванне. Праўда, паняцце «прадзюсар» сёння дэвальвавана: адразу ўяўляецца чалавек, у якога невядома адкуль процьма грошай, а каля яго тусуюцца дзяўчаты і падносяць яму цыгарэты і каву... Але ж гэта не тое. Кампазітар альбо музыка, які дае першы штуршок нараджэнню музыкі ці праекта, творца і вытворца адначасова — гэта і ёсць прадзюсар.


СРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Алег Хаменка**

Нар. 1967 у Мінску. Музыка, лідар гурту «Палац», фалькларыст, культуролаг.

### Навошта «Ферары», калі няма асфальту

**«НН»: Тады як музычны вытворца патлумачце, калі ласка, ці можна ў Беларусі зарабляць музыкай? Ці зарабляць у свеце беларускай музыкай?**

**АХ:** Зарабляць можна. Але любая вытворчасць, у тым ліку і музыка, павінна быць у сістэмнай індустрыі. Каб ёй гандляваць, прадукцыя павінна адпавядаць шэрагу патрабаванняў і стандартаў. А у нас сувязі з сусветнай музычнай індустрыяй дрэнныя, па сутнасці, іх і няма. Прадукцыю замежнай індустрыі мы ўжываем і набываем, але самі не ўплываем на яе. Любыя нашыя тавары — песні, панчохі, МАЗы — яны павінны ўдзельнічаць у сусветнай сістэме. А сістэма — гэта, акрамя вытворчасці, яшчэ і іфраструктура распаўсюду, маркетынгу, абслугоўвання, фармавання спажывецкай прасторы. Гэтага няма. Зразумейце, у «Ферары» няма сэнсу, калі ў краіне няма асфальтавых дарог.

А да таго ж сёння і самае лепшае з цяжкасцю знаходзіць месца на рынку, а мы робім прадукцыю не самай высокай якасці. Нашыя тавары не адпавядаюць замежнаму рынку. Плюс мы не ведаем, як сябе прапанаваць, як прарэкламаваць наш канцэрт, не можам зразумець патрабаванні сусветныя, а яны не разумеюць нашыя. Яны проста не разумеюць, што гэта і навошта. Да таго ж паказаць нашае мысленне свету мы пакуль не здольныя, бо самі не разумеем уласныя думкі.

**«НН»: А чаму?**

**АХ:** Сувязяў няма. Павінна быць узаемнае пранікненне культур. Каб слухаць баварскія спевы, трэба ведаць, што такое Баварыя. І тое ж тычыцца Беларусі. Гэтую праблему трэба пераадольваць, але гэта доўгі працэс. І марудны. Існуе ж яшчэ такая, скажам так, «ксенафобія»: тыя ж немцы «баяцца» нас, а мы іх. А сёння гэта яшчэ і штучна накручваецца — супрацьстаянне і гэтак далей. Само сабой, мы прыйдзем да талерантнасці, але не сёння.

### Сваё любім саромеючыся

**«НН»: З сусветнай культурай ясна. Але чаму тады нашая музычная і іншая культурная «прадукцыя» не надта папулярная і ўнутры краіны?**

**АХ:** Беларусь разадраная паміж Усходам і Захадам, паміж Рымскай Імперыяй і Залатой Ардой. Ментальнасць беларусаў фармавалася прыхаднямі на працягу двух стагоддзяў мінімум. Таму для нас любая з’ява, прынесеная звонку, аўтаматычна прыярытэтная. Мы сваё любім, але саромеючыся, нібыта трымаем «толькі для сябе на пасля». Так мы выхоўваліся.

Яшчэ такі момант: канкураваць у рэкламе нам цяжка, бо наша інфармацыйная прастора рэтранслюе вонкавую інфармацыю, а ўласны кантэнт ствараць не ўмее ды і засцерагаецца. Таму, напрыклад, расейскі поп-прадукт тут адчувае сабе больш упэўнена, чым наш. Нашыя СМІ — калька з расійскіх. Расійскія — калька з амерыканскіх. Любая калька прайграе таму, з чаго яна скапіявана.

Плюс асэнсаванне саміх сябе. У нас спытайце любога мінака з вышэйшай адукацыяй, якіх беларускіх мастакоў, харэографаў, рэжысёраў ён ведае? А якіх сучасных беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, філосафаў? Адкажуць нямногія. А немец пра сваіх адкажа, узгадае нават мясцовых, што жывуць непадалёк.

Мы ж нават у вобразах карыстаемся чужымі з’явамі. Напрыклад, кажуць: «Што такое беларускі гурт «Крама»?.. Гэта як расейскі гурт «Ва-Банкъ». Параўнанні магчымыя, але для мяне падобныя заявы — вычварэнства!

**«НН»: А як гэта змяніць? Грошы трэба?**

**АХ:** Хутчэй, культура і мова. Трэба змяніць лад жыцця. Стварыць уласны беларускі космас. Асэнсаваць, што незалежнасць — гэта каштоўнасць. Культурная незалежнасць з’яўляецца падмуркам устойлівай дзяржаўнасці. А пакуль у нас такога няма і ўсё хістаецца. «Дзякуй Богу, але мы ідзем дамоў», — спявае «Крама». Так, хочацца, каб гэты шлях быў пройдзены ўжо даўно, але што ж зробіш — час абраў нас.

### Зацікавіць слесара

**«НН»: Дык а як «насадзіць» гэтае нацыянальнае мысленне? Як зацікавіць умоўнага слесара, які пасля працы глядзіць толькі расейскія навіны і серыялы?**

**АХ:** Трэба сеяць, а не насаджваць. А той слесар свайго яшчэ нічога не бачыў і не зразумеў, што гэта — яго, а не «калгаснае». І трэба паказаць яму ягонае, беларускае, патлумачыць, чаму яно каштоўнае і цікавае. Звяртаць увагу кожны дзень, усімі сродкамі: паглядзіце, які круты беларускі спектакль, якія крутыя карціны, расказаць, колькі яны каштуюць. А потым ён падумае: «Ого, чотка! У нашым музеі ёсць карціна за двесці мільёнаў долараў! Вот бы сперэць! Ну ці хаця бы паглядзець, што за ана такая!» Расказваць трэба пра ўсё сваё: і пра Лошыцкі парк, і пра сталіцу агуркоў — бо ўсё яно вартае. І спачатку чалавек будзе ведаць, а потым пачне і ганарыцца.

Важна яшчэ звярнуць увагу нарэшце на святы. Напрыклад, у нас сёння два Раствы, «польскае» і «рускае», Пасха — «польская» і «руская». А трэба, каб былі нашы, беларускія, Каляды, Вялікдзень. І каб расказалі і вядомыя папулярныя людзі, і святары, што гэта, калі адзначаецца, як і чаму. Штосьці народ адкіне, канечне, але штосьці і застанецца.

**«НН»: Але ж гэтая мэтаскіраваная беларусізацыя павінна насаджацца дзяржавай? Загадамі? Ці Вы лічыце, што яна паступова сама прарасце?**

**АХ:** Любая дзяржава падтрымліваецца нацыянальнай культурай. Важна, каб гэта нацыянальная культура была гатовая талерантна прымаць вонкавыя ўплывы тых, хто гатовы яе ўспрымаць, паважаць, узмацняць. І дзяржава павінна рабіць усё для гэтай культуры. Але ж мы жывём яшчэ ў постсавецкім грамадстве. Нацыянальнае будаванне толькі ідзе. І каб нашая дзяржава і нашая нацыя працягнула існаванне, трэба, каб асэнсавана падкрэсліваліся рэчы, звязаныя з нацыянальнай спадчынай. Бо калі гэтага не зрабіць, не аб’яднаць культурай, то такая дзяржава праіснуе вельмі нядоўга і пры гэтым толькі як хунта, як дыктатура, як грамадства звышідэі, накшталт гітлераўскай Германіі.

**А ўсім, каму неабыякавыя выбары, прапаную зарэгістравацца і схадзіць у назіральнікі**

**«НН»: Дык а што робіць дзяржава? Вось Вы член Рэспубліканскай рады па справах культуры і мастацтва. Што гэта за рада? Навошта яна?**

**АХ:** Падобныя арганізацыі існуюць амаль ва ўсіх краінах свету. Часцей за ўсё яны ствараюцца пры прэзідэнцкай пасадзе і займаюцца праблемамі маралі, культурнай палітыкі. У нас такая рада была створана пры Радзе міністраў. Мяне туды запрасілі, і я не адмовіў, бо там было нямала глыбока паважаных мною асоб. Да таго ж хацеў даведацца, як гэта працуе, пабачыць усё на ўласныя вочы. Па сутнасці, стварэнне такой рады было правільнай ініцыятывай, але не абышлося без своеасаблівасцяў. Ці працавала рада ў гэтым і ў мінулым годзе, я, па шчырасці, і не ведаю.

Тым больш генератарам рады быў Латушка. Сёння ён у Францыі. А ці патрэбная гэтая справа тым бонзам, якія засталіся...

**«НН»: Ясна. А з чым Беларусь асацыюецца сёння за мяжой? Ведаюць хоць нешта з нашай культуры?**

**АХ:** За мяжой пра нас ведаюць асноўныя тры рэчы: Мінск, БАТЭ, Лукашэнка. Некаторыя ўзгадваюць і дранікі, і тыя ж МАЗы. Спартоўцаў яшчэ ведаюць: Герасіменя, Домрачава, Азаранка. І практычна ўсё. Ганьба, канечне, але што ж... Цікава, дарэчы, што зуброў і буслоў успрымаюць як польскія сімвалы, а не нашы.

**«НН»: Выходзіць, ведаюць, што Беларусь — гэта спорт, машыны і нязменны кіраўнік?**

**АХ:** Ну, гісторыю нашую пакуль ніхто не ведае... Мы не змагаліся за нашыя легенды і паданні, і іх расцягнулі суседзі. Выходзіць, што больш-менш вядомая Беларусь пачынаецца з другой паловы XX стагоддзя. Многія лічаць, што мы такі запаведнік СССР, і калі хочацца паглядзець, як было б у «добрым Савецкім Саюзе», — едуць да нас.

**«НН»: Апошняе пытанне, з культуры — у палітыку. Сёлетнія выбары цікавыя Вам? За каго аддасцё голас?**

**АХ:** На мой погляд, выбараў у нас пакуль што няма. Як і ў крамах — стаіць «усякага-ўсялякага», а таго, што трэба, няма. Мне шмат хто гаварыў: унізе робяць выгляд, што галасы лічаць, а ўверсе робяць выгляд, што плюсуюць атрыманае. Я, такі «Хаманявернік», вырашыў сам паглядзець, і на мінулых выбарах зарэгістраваўся як грамадскі назіральнік. Пайшоў — паглядзеў. Вельмі расчараваўся тым, як і што адбываецца. Выбары, канечне, шматпавярховая з’ява. І на ўсіх паверхах там існуюць відавочныя магчымасці для карэкцыі вынікаў і фальсіфікацый. Таму ў сучасным фальклоры выбары называюць — «гола-суванне». Прызнаюся шчыра: прагаласаваць хочацца. Але я асабіста паспрабую сёлета ўстрымацца ад гэтага пачэснага абавязку. А ўсім, каму неабыякавая гэтая з’ява, прапаную зарэгістравацца і схадзіць у назіральнікі.

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# Беларускаму школьніцтву сто гадоў

13 лістапада 1915 была ўтворана першая сталая беларуская школа ў Вільні. Расказвае гісторык **Уладзімір Ляхоўскі**.

**«Наша Ніва»: Ці можна 1915 год лічыць пачаткам беларускамоўнага школьніцтва?**

**Уладзімір Ляхоўскі:** Спробы стварыць асяродкі пачатковай беларускай адукацыі былі і раней. Узгадаем Якуба Коласа, які, дзякуючы падтрымцы абшарніка К. Гардзялкоўскага, утварыў у 1908 таемную беларускую школу ў Сеніцкім павеце Магілёўскай губерні. А таксама Цётку (Алаізу Пашкевіч), якая ў 1911 арганізоўвала ў летні час такія «лятучыя» школкі на Лідчыне і каля Нававільні. Але ўсе яны дзейнічалі кароткі час і не мелі ў грамадстве рэзанансу. А якраз 13 лістапада 1915, дзякуючы намаганням Баляслава Пачопкі і Цёткі, была ўтворана першая сталая беларуская школа ў Вільні (на Юр'еўскай вуліцы), якая дала пачатак масаваму беларускаму школьніцтву. Гэтая дата як у міжваеннай Заходняй Беларусі, так і ў БССР у 1920-я святкавалася як Дзень беларускага школьніцтва.

**«НН»: Немцы на той час ужо былі ў Вільні. Значыць, школа ўзнікла з дазволу нямецкай адміністрацыі?**

**УЛ:** Не зусім так. Толькі ў снежні 1915 выйшаў звод школьных законаў і загад фельдмаршала Гіндэнбурга аб развіцці школьніцтва на тэрыторыі акупаванай зоны Обер Ост, дзе дазвалялася выкладаць па-польску, па-беларуску, па-літоўску і на ідыш. Але беларусы, не маючы яшчэ такога дазволу, утварылі сваю першую школу. Дарэчы, у будынку школы Таварыства па пашырэнні асветы сярод яўрэяў, эвакуяванай углыб Расіі. Ад яе застаўся нейкі інвентар. І беларусы гэтым скарысталіся. Яўрэйскія арганізацыі Вільні выказалі прэтэнзіі. Канфлікт быў улагоджаны тым, што Іван Луцкевіч аддаў нешта з яўрэйскай старасветчыны са сваіх калекцыйных збораў прадстаўнікам яўрэйскай грамады.

У першы год школа была беларуска-польская. Бо ў ёй было шмат каталікоў. І Цётка з Пачопкам паступова пашыралі ў ёй беларускую мову. Па-беларуску выкладаліся мова і літаратура, гісторыя Беларусі, а нешта больш практычнае, пачаткі ручной працы, скажам, — па-польску. У наступныя гады ўсё было па-беларуску.

**«НН»: Чаму немцы пайшлі на адкрыццё беларускіх школ?**

**УЛ:** Яны кіраваліся ўласнымі інтарэсамі. Рэалізоўвалася геапалітычная канцэпцыя Гіндэнбурга-Людэндорфа што да акупаваных беларускіх, літоўскіх і польскіх тэрыторый. Яны прапаноўвалі стварыць часовую ваенную квазідзяржаву Обер Ост, дзе былі б свае пашпарты, свая мытня. А задача была простая: абмежаваць уплыў Расіі — у школах у той час было забаронена выкладанне на расійскай мове. Адначасова рабіліся спробы мінімізаваць уплыў Польшчы. Германскія ўлады асцерагаліся аднаўлення Рэчы Паспалітай як ужо чыста польскага праекта, куды палякі імкнуліся ўключыць і беларускія землі.

Задача беларусізаваць насельніцтва не была звязана з тым, што немцы сімпатызавалі беларускаму руху. Але інтарэсы невялікай беларускай эліты супалі з памкненнямі нямецкіх уладаў. Такіх прыкладаў у гісторыі шмат, калі слабейшая нацыянальная супольнасць часова рабіла стаўку на нейкую трэцюю геапалітычную сілу, каб пазбегнуць дэнацыяналізацыі з боку больш моцнага суседа. Можна прывесці прыклад Фінляндыі: тая фінская эліта, якая імкнулася пазбавіцца шведскага ўплыву, у канцы XIX ст. зрабіла стаўку на расійскі дзяржаўны апарат. Ад Расіі яны дамагліся шырокай аўтаноміі (усеагульнага выбарчага права, свайго сейма, нацыянальнай сістэмы адукацыі). Падобнай тактыкі трымаліся і «маладалатышы», каб пазбыцца нямецкага эканамічнага і культурнага засілля ў Латвіі.

У нашай гістарыяграфіі з савецкага часу сфармавалася канцэпцыя, што беларусізацыя пачалася ў 1924 годзе з ласкі бальшавікоў. Насамрэч яе адлік трэба пачынаць з 1915, і на гэта першы звярнуў увагу Вацлаў Ластоўскі. Калі паўстала беларуская школа, значна пашырыўся беларускі друк, нацыянальны тэатр і мастацтва. Зразумела, гэтыя працэсы не ахоплівалі ўсе бакі жыцця грамадства, тым не менш поспехі па беларусізацыі асветы і іншых сфер культурнага жыцця былі ўжо істотнымі і іх нельга было замоўчваць.

**«НН»: Ці былі ў 1915 падрыхтаваныя настаўнікі?**

**УЛ:** Калі ўтварылася першая школа, з дзясятак настаўнікаў было. Гэта былыя гімназісты, ветэраны беларускага руху: Цётка, браты Луцкевічы, Пачопка, Ластоўскі. У снежні 1915 у Вільні ўтварыліся настаўніцкія курсы. І 20 новых «вучыцялёў» было выпушчана ўжо вясной 1916. З сярэдзіны 1916 у Свіслачы пачала дзейнічаць беларуская настаўніцкая семінарыя — на месцы былой расійскай. Да 1918 яна зрабіла некалькі выпускаў, і больш за 100 настаўнікаў пачало працаваць у беларускіх школах. Яны няблага ведалі нямецкую мову і былі здольныя працаваць на ўзроўні пачатковай адукацыі.

**«НН»: Тады была створаная толькі пачатковая школа?**

**УЛ:** Так. Хаця ў 1917—1918 ішла гаворка аб стварэнні беларускіх гімназій. І першая беларуская гімназія ў Вільні была ўтворана 1 студзеня 1919 года, калі немцаў ужо не было. Яна паўстала ў першую чаргу дзякуючы Івану Луцкевічу. Гімназія была класічнай, сфармаванай з васьмі класаў, большасць навучэнцаў складалі яўрэі, з выкладаннем большасці дысцыплін па-расійску (акрамя дысцыплін беларусазнаўства). Былі закладзеныя толькі два дадатковыя пачатковыя класы, дзе выкладанне цалкам вялося па-беларуску. З кожным годам колькасць беларускамоўных класаў павялічвалася. І з 1926 года гімназія стала цалкам беларускамоўнай. Гэта карысны досвед беларусізацыі, які можна выкарыстаць і сёння.



Настаўнікі і навучэнцы Мінскай беларускай школы №20 разам з удзельнікамі Беларускага хору Уладзіміра Тэраўскага (стаіць у цэнтры). Май 1918 г.

ФОТА З УЛАСНАГА АРХІВА УЛАДЗІМІРА ЛЯХОЎСКАГА



Выкладчыкі і слухачы 1-х Беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні. У цэнтры сядзяць: Іван Луцкевіч, Баляслаў Пачопка, Антон Луцкевіч. Вільня, май 1916 г.

ФОТА З УЛАСНАГА АРХІВА УЛАДЗІМІРА ЛЯХОЎСКАГА

**«НН»: Беларускамоўная школа была вядучай у акупаванай немцамі Беларусі?**

**УЛ:** Не. Найбольшая колькасць беларускіх школ (звыш 120) дзейнічала ў Гродзенскім, Беластоцкім, Бельскім, Сакольскім і Ваўкавыскім паветах. Чаму? «Архітэктар Обер Ост» Эрых Людэндорф імкнуўся праз беларускае школьніцтва стварыць на польска-беларускім этнаграфічным памежжы беларускамоўны кардон, каб тым самым мінімізаваць уплыў Польшчы на заходнія беларускія тэрыторыі. І там беларускамоўных школ было 21—25% ад агульнай колькасці. Пераважалі ўсё ж польскія, шмат было яўрэйскіх, на паўночным захадзе Гарадзеншчыны былі і літоўскія.

Немцы баяліся аддаць адукацыю ў рукі грамадскасці. Настаўнікаў рыхтавала Свіслацкая семінарыя, але ваенная адміністрацыя цалкам адсунула беларускіх нацыянальных дзеячаў ад кіравання ёй. Гэта была беларускамоўная адукацыя, але без патрыятычнага напаўнення, будзем так казаць. І калі пасля лістападаўскай рэвалюцыі 1918 у Нямеччыне адбывалася паступовая эвакуацыя войскаў з нашых тэрыторый, гэтыя школы засталіся без фінансавання. А палякі, якія сюды прыйшлі, альбо зачынілі іх, альбо зрабілі польскімі. На сярэдзіну 1919 са 153 беларускіх школ на Гродзеншчыне заставалася каля 15. Як пазней пісаў Антон Луцкевіч, рабіць беларускую справу на штыках чужынцаў немагчыма — калі-небудзь яна разваліцца.

**«НН»: Дзе бралі падручнікі?**

**УЛ:** Нешта было выдадзена яшчэ да вайны (узгадаем чытанкі Якуба Коласа і Цёткі). Падчас нямецкай акупацыі вялікая роля ў школьным кнігавыданні належала Беларускаму навуковаму таварыству ў Вільні, у складзе якога спецыяльная секцыя займалася перакладам расійскіх падручнікаў і стварэннем арыгінальных беларускіх. Вацлаў Ластоўскі ўзяў у свае рукі Беларускае выдавецкае таварыства і таксама шмат зрабіў на гэтай ніве: нямецка-беларускі слоўнік, сямімоўны перакладны слоўнік, падручнікі па літаратуры і гісторыі. Прафесар Брэслаўскага ўніверсітэта Рудольф Абіхт, які спрыяў беларусам, разам з Янкам Станкевічам выдаў невялічкі лемантар для пачатковых школ. У беларускім аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літвы можна ўбачыць рукапісны беларускамоўны падручнік па сусветнай гісторыі, які стварыла Розэнберг (Ротэнберг), тутэйшая немка, пра якую мы дагэтуль нічога не ведаем. Падручнік, праўда, так і не быў выдадзены.

Самае цікавае, што яшчэ да Першай сусветнай вайны ў студэнцкіх і вучнёўскіх гуртках развівалі беларускую навуковую тэрміналогію, рабілі навуковыя даклады, даследаванні. Напрыклад, Клаўдыуш Дуж-Душэўскі яшчэ ў Пецярбургу далучыўся да гэтай справы і колькі тэрміналагічных слоўнікаў разам з Ластоўскім выдаў ужо ў ковенскай Літве ў міжваенны час. Вацлаў Іваноўскі зрабіў шмат для развіцця беларускай тэрміналогіі па хіміі. Канстанцін Гадыцкі-Цвірка і Лявонці Більдзюкевіч стаялі ля вытокаў беларускай тэрміналогіі па матэматыцы.

**«НН»: Кнігі былі на кірыліцы ці лацінцы?**

**УЛ:** Расійцы пры адступленні з Вільні звезлі ўсё друкарскае абсталяванне — кірылічнага шрыфту не было. І спачатку ўсё друкавалі лацінкай. А потым украінцы з берлінскага аддзела Саюза вызвалення Украіны дапамаглі. І з канца 1916 кнігі друкаваліся і лацінкай, і кірыліцай.

**«НН»: А ў школах дзеці як пісалі?**

**УЛ:** Кірыліцай, бо ў асноўным былі праваслаўнымі. Я паглядзеў сацыяльны склад вучняў шасці віленскіх беларускіх школ у 1916—1917 — на 90% яны былі праваслаўнымі. А выкладчыкі ў асноўным былі каталікамі альбо лютэранамі. Такі парадокс: нацыянальны рух у заходніх паветах Беларусі развіўся дзякуючы актыўнасці беларускіх каталікоў і пратэстантаў, а большасць насельніцтва была праваслаўнай.

**«НН»: Што было па другі бок фронту з беларускай школай?**

**УЛ:** У цэнтральнай і ўсходняй Беларусі праходзілі трохі іншыя працэсы. Грымнула Лютаўская рэвалюцыя, пачаўся рух за самастойнасць Беларусі. Адзін з напрамкаў тычыўся стварэння нацыянальнай школы. Усё развівалася на грамадскіх пачатках і да канца 1917 без ціску расійскай улады. Першыя школы ў Мінску былі ўтвораны ўжо ў студзені 1918. Я падлічыў колькасць школ пад немцамі на Міншчыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне — не болей за 30. І абсалютная большасць з іх дзейнічала ў Мінску. Нагадаем, што толькі 18% насельніцтва тут складалі беларусы. Горад заўсёды канцэнтраваў большую частку палітычнай і культурнай эліты, выкрышталізоўваў і інстытуалізаваў найважнейшыя працэсы ў грамадстве.

У верасні 1917 адбыліся выбары ў Мінскую гарадскую думу — першыя свабодныя выбары. У прадстаўнічы орган гарадскога самакіравання былі абраны беларусы Лявон Заяц, Аркадзь Смоліч, Уладзімір Самойла. Максімум было пяцёра патэнцыйных прыхільнікаў беларушчыны. Але гэтага хапіла, каб Мінская гарадская дума прыслухалася да іх голасу і прагаласавала за тое, каб з пачатку 1918 года ў горадзе былі ўтвораныя чатыры беларускія класы. Пад канец нямецкай акупацыі мелася ўжо 10 беларускіх школ (32 класы). З прыходам палякаў у канцы 1919 функцыянавала 17 беларускіх школ, 1 гімназія, 1 прагімназія і Беларускі педагагічны інстытут. А ў 1927 годзе 70 % адукацыі ў Мінску вялося на беларускай мове.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

**Уладзімір Ляхоўскі**

нар. у 1964. Кандыдат гістарычных навук, дацэнт факультэта міжнародных адносін БДУ. Аўтар кніг «Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915—1918)», «Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)».

Гумарыстычная п'еса. Піша **Аляксандр Апон**.

# Пісьмо прэзідэнту

*Святліца ў хаце. Пад акном стаіць стол, на якім ляжыць спісаны аркуш паперы. Па ім сюды-туды бегае муха1. На аркуш сядае Муха2, чысціць пярэднімі ножкамі галаву, затым заднімі — крыльцы, пасля чаго пачынае тужыцца. Да яе падбягае Муха1.*

**Муха1:** Што робіш, зараз жа перастань!
**Муха2:** А ў чым справа?
**Муха1:** Гэта ж пісьмо прэзідэнту!
**Муха 2:** Якому прэзідэнту?
**Муха1:** Нашаму, вядома, якому ж яшчэ.
**Муха2:** А! І што?
**Муха1:** Як гэта што? Вось уяві: атрымлівае прэзідэнт пісьмо...
**Муха2:** Так, атрымлівае.
**Муха1:** Распячатвае.
**Муха2:** Распячатвае.
**Муха1:** Глядзіць.
**Муха2:** Глядзіць.
**Муха1:** І што бачыць?

**Аляксандр Апон**

пісьменнік, жыве ў Гродне. Зарабляе на жыццё прадпрымальніцтвам.

**Муха2:** Што?
**Муха1:** Г...о тваё, вось што.
**Муха2:** Ну і няхай сабе.
**Муха1:** Эх ты, галава яловая! Хіба будзе ён гэткі ліст чытаць, ён жа прэзідэнт, а не абы-хто!
**Муха2:** Не будзе і не трэба, мне гэта да лямпачкі. Дый не чытае ён аніякіх лістоў.
**Муха1:** Не чытае?
**Муха2:** Неа.
**Муха1:** А што ж ён па-твойму робіць, калі не чытае?
**Муха2 :** У хакей гуляе, вось што. Я ўчора вечарам на тэлевізары сядзела, дык сама чула, што прэзідэнт закінуў ажно тры шайбы.
**Муха1:** Правільна, але гэта ён вечарам гуляў, а днём — бо што яму яшчэ рабіць — чытаў. Людзі ўсе такія, вось хоць нашых вазьмі: ледзь развіднее, як за лісты сядаюць, а сцямнее — ад тэлевізара не адарвеш. А прэзідэнт, адпаведна, наадварот.
**Муха2:** Мо і так, але нам што да таго?
**Муха1:** Не, усё ж такі пару клёпак у цябе ў галаве не хапае. Хіба ты не ведаеш, што ў нас у вёсцы вада ў калодзежах папрападала?
**Муха2:** Чула нешта.
**Муха1:** Дык вось гэты самы ліст да прэзідэнта, каб ваду даў.
**Муха2:** Навошта?
**Муха1:** Што навошта — вада?
**Муха2:** Ага.
**Муха1:** Ідрыт тваю макаўку! А кароў чым паіць, боўдзіла ты, га? І так у вёсцы пяць кароў засталося. Што есці будзем, калі дарэшты звядуцца?
**Муха2:** Нешта прыдумаем.
**Муха1:** Ну што ты прыдумаеш, што?
**Муха2:** Э-э... на новую ферму падамося, там, кажуць, уга колькі г...а вакол навалена.
**Муха1:** Так-так, значыцца бацькоўшчыну на свежае г...о прамяняеш, родны куток прадасі?
**Муха2:** Але што рабіць, карміцца ж неяк трэба? Калі кішкі марша зайграюць, ого — не паглядзіш!
**Муха1:** Гэта праўда. У мяне ўжо жывот падцягнула.
**Муха2:** То паляцелі хутчэй, каровы зараз на полудзень рушаць, мо аладкаў падкінуць.

*Муха1 і Муха2 вылятаюць у фортку. Уваходзіць цётка Франя, за якой сунецца баба Маня. Абедзве адразу ж прамуюць да стала.*

**Цётка Франя:** Вось гэта пісьмо.
**Баба Маня:** Я ўсё раўно, дзеткі, без акуляраў не бачу.
**Цётка Франя:** Але распісацца здолееце? *(Падае бабе Мані асадку.)*
**Баба Маня:** Ды ўжо які кручок патраплю паставіць, ты толькі пакажы дзе.
**Цётка Франя** *(тыцкнуўшы пальцам у аркуш)*: Вось тута, унізе.
**Баба Маня** *(гледзячы на аркуш як баран на новыя вароты)*: А прыпісалі, што іншага прэзідэнта нам не трэба і што ўсе дружненько, як і заўжды, пойдзем за яго галасаваць?
**Цётка Франя:** Прыпісалі.
**Баба Маня:** А каб Бог даў яму і ягонай сямейцы ўсягоўсягенькага, не забыліся ўставіць?
**Цётка Франя:** Не забыліся.
**Баба Маня:** І што век на яго маліцьмемся?
**Цётка Франя:** То як жа.
**Баба Маня:** А... а...
**Цётка Франя** *(нецярпліва)*: Усё тут ёсць, усё, нічога не ўпусцілі, падпісвайце ўжо — і годзе.

*Баба Маня, цяжка ўздыхнуўшы, ставіць на аркушы якуюсь крывуліну. Цётка Франя складае аркуш і кладзе яго сабе ў кішэнь.*

**Цётка Франя:** Я на пошту.
**Баба Маня:** І я з табою.
**Цётка Франя:** Дык вам жа нага баліць.
**Баба Маня:** Вой баліць, дзеткі, вой баліць! Але нічога, як-небудзь даклыпаю.

*Выходзяць.*

# Радзіма не прадаецца

**Таццяна Барысік**. Запісы з народнага жыцця.

* * *

— Ім ета ўжо не трэба, — апраўдвалася васьмідзесяцігадовая старая, употайкі цягнучы плужок з чужога двара. За два месяцы да ўласнага скону.

* * *

З гутаркі дзвюх пенсіянерак па дарозе з лецішча:
— І ўсё гэтым бабам трэба, было б чатыры рукі — яшчэ б дзве торбы ўзяла б!
— Каторым жа нічога не трэба, дзень на лаўцы сядзяць.
— А паглядзіш — жывем адзінакава.

* * *

Пасажыр аўтобуса Бабруйск — Глуша нечакана звяртаецца да незнаёмага спадарожніка:
— Мужык, а мужык, ты не з Дойнічава будзеш? Дужа ж морда мне твая знаёмая!
— Ну, з тых краёў.
— А ты Шная не ведаеш?
— Каторага? Што ў канцы вуліцы жыве?
— А ты часам не сваяк яму? Дужа ж морда мне твая знаёмая!

* * *

Вясковая цётка распавядае гарадской сваячцы аб прыгодах мясцовага блазна:
— Гэта ж заўчора рабіў у мяне дурны Пятрок, гной з хлява выкідаў. Ну, я з ім самагонкай разлічылася, шчэ й грошай трохі дала. Дык ён паўлітру выжлукціў, пасля сеў на веласіпед і паехаў не дадому ў Станы, а ў Дзераўную, дзе калісьці іхняя хата стаяла. Зарыўся ў стозе саломы, так і праспаў да рання.
— Чаго ж яго ў тую Дзераўную панесла? — дзівіцца сваячка.
— Бо тамака яго бацькаўшчына! — упэўнена адказвае цётка, пазіраючы на сваю суразмоўцу бы на неразумнае малое.

* * *

У аўтобусе перад адпраўкай усчалася сварка між кандуктарам і пасажырам. Пасажыр патрабуе даць білет, а кандуктар пасылае яго да аўтакасы.
— Нет, нет ідіте за білетом, кондуктор абсолютно права! — заступаецца за кандуктара дамачка ў брылі, аматарка лезці не ў свае справы, і адразу атрымлівае нечаканы адлуп.
— Мадонна, панімаіш, шапку надзела! Даў табе Бог зад — вось і сядзі!

* * *

Суседзі размаўляюць на вуліцы:
— Прадаў бы ты гэтую хату, усё адно ездіць сюды не будзеш, — раіць першы.
— Радзіма не прадаецца! — не пагаджаецца другі.
— Яна зарастае травой і гніе! — чуецца бязлітасная высноваааднекуль збоку.

* * *

У аўтобус Бабруйск—Глуск уваходзяць два пажылыя пасажыры. Адзін пацікавіцца ў другога:
— Што плечы расправіў? Мо жанчыну ўбачыў?
Ягоны суразмоўца ў адказ толькі скрушліва махае рукой:
— Ат, перагарэла ўсё!
— Ну, нос жа чырвоны! — не супакойваецца першы.
— Такі, як і ў цябе! — не здаецца другі.
— Які не Панцялей, а ля жанчыны весялей!
— А ты, Сцяпан, усё такі ж, смешачкі строіш! — далучаецца да размовы бабуля.
— Я вас нешта не пазнаю.
— Дык мо на бацькаўшчыну з'ездзім? — пытае неспадзяваная зямлячка.
— А, Галя! З твару дык пазнаў, а так дык не. Насця шчэ жывая?
— Жывая.
— А Мішка і брат яго, што ў міліцыі рабілі?
— Жывыя.
— Такі ж тарбахват Мішка, а брат яго дык зусім заўзятар.
— Хто?
— Ну, заўзятар — за ўзяткі яго пасадзілі!
Як песню слухаю...

* * *

— Я з сабою заўсягды валідол важу, — кажа бабуля, адшукаўшы ў сваёй сумцы лекі для выпадковай спадарожніцы.
— Што, старая, памерці баішся? Выйдзеш з аўтобуса, а яна цябе касою — шах!
— А ў мяне ногі кароткія — падскочу!

* * *

Аўтобус Бабруйск — Глуск праязджае прыпынак каля вёскі Пятровічы, славуты аграсядзібай непадалёку з прыватным заасадам. Не пабачыўшы людзей на прыпынку, кіроўца едзе далей.
— Эй, Пятровічы! — гукае на ўвесь аўтобус пасажыр.
Кіроўца ці то не чуе, ці то не звяртае ўвагі.
— Горад-герой Пятровічы! — раве дзядзька яшчэ мацней.
Кіроўца неахвотна прытармажвае.
— Пасяціце, пажалуста, наш заасад! — агітуе задаволены пасажыр, знарок павольна пакідаючы аўтобус.
— Не, спасібачкі, пасяцілі ўжо, — бурчыць кіроўца.

* * *

Сямейная пара, відавочна, прафесійныя зборшчыкі ягад і аматары пладова-выгадных напояў, падпірае задня дзверы аўтобуса вёдрамі чарніцаў.
— Вы выходзіце? — пытаецца дамачка інтэлігентнага выгляду.
— Прапусцім, — адказвае мужчына, зухавата ўсміхаецца, паказвае рукой на жонку: — Я яе ў акно выкіну!
— Як можна? Гэта ж маці вашых дзяцей! — абураецца дамачка.
— Гы-гы-гы, дык яны ўжо выраслі! — аджартоўваецца джэнтэльмен.

* * *

Аўтобус ледзьве паўзе па бальшаку, спыняючыся ля кожнага слупа. Усю заднюю пляцоўку займаюць дзве кабеты цяжкой вагі і мажны хлапчук гадоў дванаццаці. На адным з прыпынкаў яны выходзяць.
Аўтобус памчаў як на крылах.
— Конь адразу так папёр, дзе ўзяліся ногі! — на ўвесь салон цытуе памятныя са школы радкі кабета збоку.
— Тая ж баба — сем пудоў сама мала важыць, — падхоплівае яшчэ нехта.
Хаця адзін радок Кандрата Крапівы ўзгадаў ледзь не кожны з пасажыраў. У аўтобусе ехалі людзі пенсійнага і перадпенсійнага веку.

* * *

Закон бумеранга.
Мясцовага апівоху сабутэльніца паклікала на дзень нараджэння. Пляшкі ў падарунак не было. Нарваў кветак у суседскім гародчыку. Праз месяц вырашыў правіць уласны дзень народзінаў.З'явіліся грошы. Хапіла на пяць пляшак. Толькі гульнуць як след не ўдалося. Набегла паўсельсавета. Усе з кветкамі!

* * *

Вярнуўся багаты дзядзька з замежнага курорта. Склікаў усіх сваякоў. Паказвае, выхваляючыся, фотаздымкі:
— Гэта — я ў рэстаране. Гэта — я на пляжы, віно персікамі закусваю. Гэта — за сталом, у госці нас запрасілі!
Няўдзячны пляменнік не падзяляе захаплення:
— Дзядзька, ты што, кабан? На кожнай фатаграфіі жарэш!


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Таццяна Барысік**

пісьменніца, лаўрэатка другой прэміі Гедройца (2015). Жыве ў Магілёве, працуе апаратаркай па ачыстцы сцёкавых водаў.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Каля выхада з Заходняга рынку ў Мінску стаіць невялікага росту мужчына. Людзі падыходзяць, просяць выбраць кавун ці дыню і купляюць. У адказ азербайджанец Раміль ім кажа: «Дзякуй вялікі, смачна есці!» «За 19 гадоў толькі дурында не вывучыць беларускую мову!» — усміхаецца ён.



Symbal.by запусціў продаж аўтавышыванак. На выбар маецца два ўзоры, якія назвалі «Сонца» і «Зорка». Першы ўзор на сваю машыну нанёс дырэктар «Арт-сядзібы» Павел Белавус.




Сын папулярнага музыкі Сяргея Міхалка Павел 28 жніўня ажаніўся. Ягонай абранніцай стала Наста Малышава.



БЕЛТА

Удзельніц конкурсу «Місіс Сусвет» вазілі ў 5-ю брыгаду спецназа ў Мар'інай Горцы. У конкурсе ўдзельнічала 55 замужніх жанчын з усяго свету. Пераможцай стала Эшлі Бурнхам з Канады.



Юны жодзінец Цімур Сушко стаў сапраўднай сенсацыяй уступнай кампаніі гэтага лета. Яшчэ б: у 12 гадоў скончыць школу і паступіць у Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт!

## Анекдоты і жарты

* * *

– Вы верыце ў гараскопы?

– Не! Я — Леў, а Львам уласцівы скептыцызм.

* * *

Два грамы санкцыйнага парашку *Persil* знайшлі паліцэйскія ў жыхара расійскага Іванава. У судзе зламыснік беспаспяхова спрабаваў даказаць, што гэта звычайны какаін.

* * *

Ляснік Канстанцін Баляславіч ужо восем разоў бачыў снежнага чалавека, але кідаць піць пакуль не збіраецца...

* * *

– А раён у вас ціхі?

– Так. Вось, напрыклад, у мінулым месяцы трох чалавек прырэзалі — дык ніхто нічога не пачуў!

* * *

Вучань пытаецца ў дасведчанага вінароба:

– Якім павінен быць склеп, каб віно ў ім добра даспела?

– Надзейна замкнёным, — адказаў той.

* * *

Старшыня калгаса пабудаваў сабе дом на грошы калгаса, потым прадаў яго гэтаму ж калгасу і пасяліўся ў ім як старшыня.

* * *

Чалавек, які добра разбіраецца ў кавунах, пагрукаўшы ў дзверы, можа зразумець, ці добрая сям'я жыве ў кватэры.

* * *

Марыля пражыла ў шчаслівым шлюбе 20 гадоў.

На гэта ў яе пайшло пяць мужоў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Мінску няма газеты прагрэсіўнай**, якая б асвятляла цёмныя куткі жыцця. А такіх куткоў у Мінску развялося без канца. Тутэйшая чарнасоценская газета «Мінское слово» ўзяла вялікую сілу, апіраючыся на даносы на ўсе светлыя праявы грамадскага жыцця і маючы «руку» ў людзей, каторыя трымаюць «пярун і маланкі». Жыццё цяперашняга часу добра малюе прыказка: «У каго кій даўжэйшы, той і сільнейшы».

**«НН». №37. 1910.**

**Палякі сталі нашымі поўнасцю.** З'езд палякаў у Ваўкавыску прайшоў цалкам «дэмакратычна». Дэлегатаў прывезлі чатырма аўтобусамі пад аховай. Выбары адбываліся на безальтэрнатыўнай аснове. За кандыдатуру сапоцкінскага пенсіянера Юзафа Лучніка прагаласавала 149 дэлегатаў са 174. Захаваць вольнасць, захаваць польскую самаарганізацыю, незалежную ад уладаў — такія задачы ставяць палякі, якіх у залу з'езда не пусцілі.

**«НН». №33. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 08.09.2015.
Замова №3607.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15033